

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 10 сакавіка 1989 г. № 10 (3472) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


*ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*



# «Такая мая пазіцыя...»

Здавалася б, Івана Гаўрылавіча Чыгрынава ведаю больш-менш добра, а ўсё ж быў уражаны, колькі гадоў назад прачытаўшы ў У. Гніламёдава вось гэта: «І яшчэ варта ўспомніць такую дэталь: летам — у час канікулаў ці адпачынку — часам ён ішоў з Мінска ў свой Вялікі Бор (што ажно ў Касцюковіцкім раёне на Магілёўшчыне, дзе нарадзіўся) пяшком. З усімі адхіленнямі — паўтысячы кіламетраў! Гэта было цікава — шмат сустрэч,назіранняў, уражанняў. Шмат вандраваў і калі знаходзіўся дома: свой Касцюковіцкі (і не толькі Касцюковіцкі) раён схадзіў увесь».

Тады падумалася, што дэталь гэтая дадае вельмі шмат да чалавечага і творчага аблічча пісьменніка, у многім вытлумачвае вялікую праўдзівасць і жыццёвую верагоднасць яго кніг і яго герояў. Падумалася тады і пра тое, што і ў літаратуру ён не прабіваў дарогу «грудзьмі» ці локцямі, а ўваходзіў у яе, калі можна так сказаць, з цягавітай сялянскай самавітасцю і годнасцю, нічога не робячы наспех.

Яго першая кніга «Птушкі ляцяць на волю» выйшла ў свет, калі аўтару споўніўся трыццаць адзін год. Ды і першае чыгрынаўскае апавяданне «Праз гады» трапіла ў друк, калі аўтару было ўжо дваццаць сем гадоў. Але затое якое гэта было апавяданне?!

«За сто кіламетраў на абед», «Па сваіх слядах», «Народны камісар», «Жыве ў крайняй хаце ўдава», «Ішоў на вайну чалавек...» — гэтыя і іншыя апавяданні І. Чыгрынава (і з першай, і другой кнігі «Самы шчаслівы чалавек») — своеасаблівыя абразкі народнага жыцця, якія, дзякуючы таленту пісьменніка, сталі сапраўднымі мастацкімі палотнамі. Лепшыя апавяданні І. Чыгрынава нават самыя строгія крытыкі адносяць сёння да залатога фонду беларускай навелістыкі.

З той жа сялянскай самавітасцю і годнасцю ўзяўся пісьменнік за раман, бо быў упэўнены, што «раман — гэта сам народ». Пра гэты народ і збіраўся ён сказаць сваё слова. Спачатку нарадзіўся «Плач перапёлкі», пазней — яшчэ два раманы: «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы». Сёння рэдка знойдзеш літаратурна-даследчыцкую кнігу аб савецкай літаратуры на тэму мінулай вайны, у якой бы не згадвалася чыгрынаўская трылогія. Самы свежы прыклад — даследаванне А. Шагалава «Сілай абавязку і сумлення» (выдавецтва ДТСААФ СССР). Прозвішча І. Чыгрынава тут — сярод прозвішчаў Ф. Абрамава, А. Адамовіча, В. Астаф'ева, Г. Бакланава, В. Быкава, В. Кандрацьева, А. Рыбакова, К. Сіманава і іншых летапісцаў усенароднага подзвігу ў барацьбе з фашызмам.

А пісьменнік працаваў не толькі за сваім пісьмовым сталом. Нямала часу забіраў і другі рабочы стол: і тады, калі працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва ў выдавецтве «Навука і тэхніка», і калі вёў аддзел публіцыстыкі і нарыса ў часопісе «Полымя», і калі «сакратарнічаў» у Саюзе пісьменнікаў БССР (больш за дзесяць гадоў). Набыты вопыт спатрэбіўся, калі Іван Гаўрылавіч узначаліў праўленне Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры. За нядоўгі час фондам распрацаваны шэраг значных праграм, накіраваных на адраджэнне і далейшае развіццё беларускай нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы,— такія, як «Вяртанне», «Спадчына» і іншыя.


**(Працяг на стар. 2).**


# Тэзісы передвыбарчай платформы

**кандыдата ў народныя дэпутаты СССР па Бабруйскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 573 Івана Гаўрылавіча ЧЫГРЫНАВА**

*** Галоўны жыццёвы дэвіз — клопат пра чалавека, павышэнне яго дабрабыту. Адсюль і імкненне да таго, каб у бліжэйшыя гады людзі сталі нарэшце жыць па-чалавечы. Я — за сацыяльную справядлівасць, за стварэнне ўсім роўных магчымасцей, за выкараненне ўраўнілаўкі, зацiску ініцыятывы і г. д.**

**Кожны мае права на забяспечанае шчаслівае жыццё. Такая мая прынцыповая пазіцыя.**

*** Я заўсёды выступаў за стварэнне ўмоў для забеспячэння здароўя людзей, вырашэнне жыллёвай праблемы, што з'яўляецца галоўным і для насельніцтва выбарчай акругі. Кожная сям'я павінна мець добраўпарадкаваную кватэру ці асобны дом. Асаблівую ўвагу трэба аддаць будаўніцтву і абсталяванню паліклінік, бальніц і лячэбніц тэрытарыяльнага прызначэння. Безумоўнаму вырашэнню гэтых праблем у самыя кароткія тэрміны павінен быць забяспечаны строгі дэпутацкі кантроль.**

*** Мяне вельмі хвалюе развіццё сацыяльнай сферы. Наспела вострая неабходнасць у вызначэнні і сістэматычнай карэкціроўцы, з улікам змены цэн і росту прыбыткаў, разліковага пражытачнага мінімуму і сацыяльнай гарантыі яго забеспячэння. Пенсіі ветэранаў, матэрыяльнае становішча іх, а таксама маладой сям'і павінны перавышаць гэты ўзровень. Карэннага перагляду вымагае стварэнне адпаведных умоў працы і быту жанчыне-маці. Фінансаванне гэтых накірункаў трэба значна павялічыць за кошт разумнага скарачэння сродкаў на ваенныя патрэбы.**

*** Буду вялікую ўвагу аддаваць паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі, якая робіцца пагрозлівай, асабліва пасля чарнобыльскай трагедыі. Першым укладам у гэта лічу хутчэйшае завяршэнне будаўніцтва і рэканструкцыю ачышчальных збудаванняў, рэканструкцыю і павышэнне тэхнічнага ўзроўню прамысловых прадпрыемстваў, а таксама спыненне будаўніцтва новых вытворчасцей, што згубна ўплываюць на экалогію рэгіёна. Сродкі на вырашэнне гэтай праблемы трэба ўжо цяпер браць за кошт касмічнай, а найперш меліярацыйнай праграмы, якая не заўсёды прадуманая і неабходная.**

*** Хачу зрабіць усё, што зменіць сённяшнія адносіны да культуры, таму што росквіт дзяржавы — гэта і культура народа. Я за тое, каб яна стала важнейшай справай перабудовы. Я за стварэнне новай канцэпцыі культуры. Нельга разлічваць на сур'ёзныя зрухі ў эканоміцы, у дзяржаўным будаўніцтве, калі не ўлічваць узровень маральнасці людзей, не ўзбагачаць унутраны свет чалавека. Нашаму грамадству патрэбен разумны, працавіты, выхаваны чалавек. Час ад вузкіх рамак агульнаадукацыйных праграм пераходзіць да выхавання не толькі пісьменнасці, але і высокай духоўнасці.**

*** Лічу неабходным аддаць вялікую ўвагу адраджэнню беларускай культуры і нацыянальнай мовы, аднаўленню помнікаў гісторыі і культуры. Вярнуць гістарычную памяць, стварыць праўдзівую гісторыю народа — гэта вельмі важна. Безумоўна, такая праграма не павінна быць на шкоду рускім, украінцам, палякам, літоўцам, яўрэям, татарам і прадстаўнікам іншых народаў, якія жывуць на тэрыторыі нашай рэспублікі.**

*** Вырашэнне надзённых пытанняў не ўяўляю без далейшага развіцця дэмакратыі ў краіне, якая, у сваю чаргу, можа быць забяспечана шляхам карэннай перабудовы палітычнай сістэмы, важнейшым элементам якой з'яўляецца стварэнне прававой дзяржавы.**

## УНУМАРЫ:

*Крытыка, бібліяграфія*

# Навошта нам неба?

**Раіса Баравікова. Каханне. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

ВІДАЦЬ, Р. Баравікова выбрала не лепшую назву для сваёй новай кнігі — «Каханне». Не, задума вельмі празрыстая і, што называецца, канцэптуальная: з кахання, «самай высакароднай, самай узвышанай і самай індывідуальнай з пакут» (Ф. Энгельс), пачынаецца сапраўдная лірыка. Каханне надае душы «всемирную отзывчивость» (Дастаеўскі), абвастрае эмоцыі чалавека, актывізуе духоўны, грамадзянскі патэнцыял асобы, застаючыся і сёння, як і заўсёды, «зернем і цэнтрам, на які навіваецца ўсякая паэтычная ніць» (А. Фет). Можна было б працягваць цытаванне класікаў, але гэта на сённяшні дзень справа няўдзячная, і пайшла я на такую рызыку з адзінай мэтай: паказаць, што рашэнне паэтэсы заканамернае, і ў ім няма эфекту нечаканасці, асабліва калі разглядаць зборнік у кантэксце папярэдняй яе творчасці. Інтымная лірыка заўсёды была асновай паэтычнага свету Р. Баравіковай, і крытыка аднадушна высока яе ацэньвала. Ведаючы свае магчымасці, Р. Баравікова даўно адчувала патрэбу тэматычнага зборніка, яшчэ ў кнізе «Такое кароткае лета» (1981) былі радкі: «Нават кніжак няма пра каханне, век халодным разлікам жывы». Падобныя кнігі ў савецкай паэзіі, праўда, не навіна, але нам важна адчуць, як даўно выспявала аўтарская задума зборніка. Канчатковым штуршком стаў, напэўна, грунтоўны лімаўскі артыкул Т. Бондар «Чатыры спробы назваць таямніцу» (1984), у якім былі расстаўлены «вехі кахання» па зборніках Р. Баравіковай (ад юнацкіх летуценняў да ўсведамлення адказнасці перад светам, ад упэўненасці ў абранніцтве да разумення складанасці і высокага прызначэння жыцця), а заадно і абаронена ад усякіх спроб прыніжэння, сёння ўжо амаль неіснуючых, святое права паэта на інтымную лірыку і жанчыны на месца ў паэзіі. Т. Бондар зазначыла тады, што Р. Баравікова «на подступах да сваіх галоўных вяршынь» і выказала ўпэўненасць, што новы зборнік будзе яшчэ адным крокам насустрач таямніцы чалавечай душы.

І вось — «Каханне». Ці спраўдзіліся надзеі, ці бліжэй стала таямніца? Напэўна, калі б Р. Баравікова пайшла традыцыйным шляхам (такім, які абраў, скажам, Г. Бураўкін, складаючы кнігу «Пяшчота») і аб'яднала ў зборніку лепшыя вершы папярэдніх кніг з новымі, то эфект быў бы мацнейшым: адчувальнейшая была б дынаміка лёсу і пачуцця, больш усвядомленым — драматызм. Але паэтэса выбрала складаны шлях: выказванне сённяшняга стану душы, увасабленне адценняў жывога, балючага, трапяткога пачуцця. Большасць вершаў кнігі разгараюцца з «цяпельца даўняга святла», у іх — драматычны ўспамін аб былым каханні, «урок няспраўджанай надзеі», адбалелая мара, па якой «сэрца сумаваць умее голасам пяшчоты і тугі». Адзінота — стан душы, які, побач з усімі іншымі, мае права на эстэтычнае ўвасабленне, калі праз яго сцвярджаецца ідэя ўзаемаразумення, пошук духоўнай блізкасці. Таму нічога страшнага, што інтымная лірыка кнігі падалася яе першаму рэцэнзенту Ф. Яфімаву («Полымя», № 9 за 1988 год) «адным доўгім вершам пра нешчаслівае каханне». Нібы да Ф. Яфімава, аўтара колішняй спагаднай рэцэнзіі на першы зборнік Р. Баравіковай, звяртаецца сёння паэтэса: «Жанчыну пазнай у жанчыне, бы ў дзяўчынцы дзяўчынку калісь». Адзінства настрою, скразны матыў пачуцця можа быць вартасцю лірыкі, бо праз яго сцвярджаецца цэласнасць і маральная прыгажосць асобы лірычнай гераіні. Прайсці «на ўздых» ад кахання, а потым прасіць праз гады і растанне:

**Дазвольце мне вярнуцца**
**з лістападу,**
**з завеі ці з дажджу ў**
**будзённы час,**
**каб доўг аддаць у глыбіню**
**пагляду, —**
**замоўчанае:**
**«Я КАХАЮ ВАС...»**

У гэтым, як і ў балючым выдыху: «Без цябе нашто мне неба?» —асоба, душа. І, можа, мае рацыю паэтэса Л. Васільева, калі гаворыць: «Выплакванне, выказванне бязмежных пакут абсалютна неабходнае жаночаму паэтычнаму характару». Усё ж мужчына і жанчына па-рознаму адчуваюць жыццё, мужчынская інтымная лірыка больш медытатыўная, спакойная, «жаночая» (тэрміны, вядома, умоўныя) — экспрэсіўная і нават «надрыўная». Гэтага нельга не ўлічваць, і, мабыць, наступныя словы набалелі не адной Л. Васільевай: «Усе жаночыя патрабаванні, і літаратурныя, і жыццёвыя, усе ўсхліпы: «Вярніся», усе «воплі»: «Что тебе я сделала?!»— ёсць пустое страсенне паветра, незразумелае і раздражняльнае для мужчынскага свету...» (абрываю цытату, бо словы, сказаныя далей, выклічуць буру гневу ў мужчынскай паловы чытачоў. Зрэшты, перачытайце артыкул у «Литературной России» за 20 сакавіка мінулага года!)

Дык вось, гэта іменна жанчынай перажытая драма кахання, аб якой сказана на перахопленым ад хвалявання і моцнага пачуцця дыханні:

**Голас мой, не дрыжы,**
**Вочы... а вы глядзіце:**
**парасткі першай ілжы —**
**бомба ў зеніце!**

І спрачацца, перакапальна гэта ці не, можна да бясконцасці.

Да таго ж матыў адзіноты ў лірыцы Р. Баравіковай не такі ўжо фатальны, бо, як справядліва гаворыць паэтэса, «хто знаў каханне — пакахае зноў». Эстэтыку шчаслівага кахання сцвярджаць, вядома, цяжэй, але ў кнізе ёсць і такія спробы. І як словы мудрай жанчыны, за плячыма якой немалы лёс, успрымаюцца простыя і незвычайна спакойныя для экспрэсіўнай Р. Баравіковай радкі:

**Казаў мудрэц яно — і**
**нараканне,**
**І сонца, і пякучай цемры**
**сплаў...**
**«Якія вочы мне дало каханне!»**
**але... спярша душу яму**
**аддаў.**
**Гляджу на ўсё вачамі**
**маладымі,**
**І гнеўнымі, і добрымі ўдвая...**
**Каханне і прынізіць, і ўзніме...**
**пакуль у ім жыве душа мая.**

Пакуль у інтымнай лірыцы жыве душа паэтэсы, яна хвалюе і чытача. І мне асабіста не бачыцца ў вершы «Ні славай, ні бясслаўем не адорваў...» штучнае прывязванне тэмы кахання да «глабальных трывог XXI стагоддзя», як Ф. Яфімаву. Чаму Р. Баравікова стагоддзе павінна ўспрымаць выключна ў глабальных маштабах ды яшчэ з экалагічнымі праблемамі? Верш жа не аб гэтым. Чаму жанчына, якая бярэ з сабою ў новы час усё самае дарагое і пакідае адно — каханне, не можа задумацца, колькі год ёй будзе ў тым XXI стагоддзі, заўважыўшы тонкую маршчынку на лбе, «як знак адтуль, што мне там без цябе ўжо не страшна будзе і памерці»?

Іншая справа, што нярэдка інтымная лірыка зборніка нагадвае не лепшага гатунку флірт, сапсавана сентыментальнымі «аздобамі» накшталт «Я на слязе ізноў гадую квецень», «Амур смяяўся недзе блізка, маўчы... маўчы... Яго страла ляціць», ці зусім ужо наіўна-рамансавым: «Я ложак свой лілеямі ўпрыгожу — прыйдзі!».

У некаторых вершах адчуваецца імітацыя, штучнае нагнятанне пачуцця, якое мяжуе з рацыяналістычнасцю. Так, уражанне ад шчырага і страснага лірычнага цыкла (гэты жанр, здаецца, заўсёды ўдаваўся паэтэсе) «Вершы без апошняга радка» рэзка зніжаецца заключнымі словамі пра зіму, сцюдзёнае дыханне якой «пры стратах самы лепшы фон». Адразу робіцца спакойна за лірычную гераіню: калі яна думае пра «фон», то ад кахання не памрэ.

І ўжо ў чым цалкам пагаджуся з Ф. Яфімавым, дык гэта ў тым, што вершы пра каханне — не самае цікавае ў кнізе «Каханне». Здаецца нават, што іх мала ў зборніку, а калі зоймешся празаічнымі падлікамі — каля палавіны ўсіх твораў (улічым і тыя, дзе каханне — як настрой, успамін, няўлоўная атмасфера). Як бы там ні было, гэта не тэматычная кніга, як мне здаецца, а звычайны зборнік, таму і назва не самая ўдалая. Парадокс мастацкай творчасці?

Што ж бачаць вочы жанчыны ў сучасным свеце, акрамя кахання? Бачаць, што «ў свеце цесна ад ракет, і стала менш даверу ў словах», і таму лірычная гераіня кнігі імкнецца затуліць сваё дзіця, дачку Сусвету, ад бяды. Моцна, натуральна гучыць у кнізе мацярынская трывога за жыццё, за духоўнасць грамадства: «Так доўга з мары мы рабілі яву, што дзе-нідзе згубіўся чалавек». Сапраўды, «перш чым зірнуць у наступ-

**Леанід ГАЎРЫЛКІН**

# НЕ ДЗЕЛЯ СМЕХУ

**Леанід Гаўрылкін прынёс у рэдакцыю свой артыкул літаральна за два дні да раптоўнай смерці. Апошнія гады пісьменнік працаваў у «Вожыку», узначальваў аддзел літаратуры. З вялікай адказнасцю ставіўся ён да свайго службовага абавязку, дбаў аб тым, каб прыцягнуць да супрацоўніцтва з «Вожыкам» лепшыя літаратурныя сілы рэспублікі, каб сатыра і гумар неслі высокую службу маральнага аздараўлення грамадства. Гэты клопат — і ў яго ным артыкуле «Не дзеля смеху», які мы друкуем.**

Гумар і сатыра заўсёды былі тым выратавальным кругам у здрадлівым і неспакойным акіяне жыцця, які памагаў чалавеку не толькі застацца на паверхні, не патануць, але больш аб'ектыўна ацаніць сваё становішча і нават, пры ўсіх нягодах і бедах захаваць аптымізм і душэўнае здароўе.

Гумар і сатыра — рэлігія прыгнечаных і бяспраўных. Беларусы ўмелі смяяцца і тады, калі было не да смеху.

Ананімная паэма «Сказ пра лысую гару» як бы кампенсавала недахопы легальных сатыры і гумару, засведчыла, што гэты жанр пры ўсіх тых фальшывых фарбах, якімі малявалі рэчаіснасць часам шчырыя, але асепленыя і паслужлівыя мастакі, не страціў цвярозасці і аб'ектыўнасці. Веданне і разуменне жыцця для сатырыка не меней важна, чым для таго ж сацыёлага. Аўтары паэмы, вызваленыя ад уціску рэдактуры і цэнзуры, бо не разлічвалі на публікацыю, сумелі праз канкрэтнае выявіць сваю эпоху з яе звыродлівымі і негатыўнымі праявамі. Паэма агаліла супярэчнасці тагачаснага жыцця, паказала іх не такімі, якімі яны дэманстравалі сябе праз друк і лакіровачную літаратуру, дзе яны лічыліся знікаючымі перажыткамі мінулага. Іменна гэтым, а не абывацельскай цікаўнасцю да жыцця пісьменнікаў, як некаторыя лічаць, можна растлумачыць нечаканы поспех паэмы. Тыраж у шэсцьдзесят тысяч разышоўся практычна імгненна. І на беларускай мове, дарэчы!

Публікацыя паэмы ў «Бібліятэцы «Вожыка», яе поспех паднялі планку патрабавальнасці да сатыры. Выдаваць цяпер творы сатырычна-гумарыстычнага жанру на такім узроўні, які быў прымальны яшчэ нядаўна, было б здзекам з чытача.

Год Ведзьмака Лысагорскага павінен быў стаць годам не меней таленавітых яго калег.

Адна за адной у «Бібліятэцы «Вожыка» з'явіліся кніжкі Анатоля Грачанікава «Школа танцаў», Янкі Сіпакова «Пятніца ў суботу» і Рыгора Барадуліна «Бервенізацыя».

Аўтары, непадобныя па ўспрыманні рэчаіснасці, па выкарыстанні мастацкіх сродкаў, але аднолькава паслядоўныя ў скіраванні сваёй увагі да самых балявых кропак нашага жыцця.

Не толькі грамадзянскі пафас робіць адметнай кніжку А. Грачанікава. Аўтар стараецца адарваць сатыру ад эстраднага анекдота, падцягнуць яе да ўзроўню той літаратуры, сэнс якой у стварэнні ў першую чаргу характараў сучаснікаў, выяўленні ў іх рысах найбольш адметных тэндэнцый часу. Паэт малюе эпізоды, падгледжаныя ў жыцці, знешне не кідкія, быццам бы знарок падкрэслена ардынарныя, але ад гэтага выяўленыя анамаліі жыцця раптам набываюць жахліва абагулены характар.

Я. Сіпакоў свой пафас таксама скіраваў на паказ характараў персанажаў. Але гэта, як гаворыцца, празаіку палажана па штату: яму ніяк нельга абмяжоўвацца эмоцыямі. Характары ў творах Я. Сіпакова настолькі нестабільныя, зменлівыя, настолькі атручаны вірусамі мімікрыі, што хочацца нават сказаць, што іх зусім няма. Ёсць адны толькі прывіды, рудыменты, тых якасцей псіхікі, якія ў больш спрыяльных умовах маглі б стаць характарамі. І ўсё гэта ў аўтара даведзена да такой ступені абагуленасці, што так і хочацца крыкнуць ледзь не ў адчаі: дык кім жа мы сталі, ці здольныя мы, такія, на нешта сур'ёзнае ў жыцці?! Мы ж не людзі, не асобы, а хутчэй нейкая пацяруха, якую гоніць вецер па знявечанай зямлі.

І калі А. Грачанікаў і Я. Сіпакоў пры ўсёй сваёй нераўнадушнасці пераважнае права на праяўленне эмоцый аддавалі чытачу, то Р. Барадулін свой настрой не прыглушае. Ён «сярдзіты», як піша ў прадмове да кніжкі Г. Бураўкін. «Рука ў яго пры гэтым па-сяброўску цяжкая і нястомная, а прыцэл — па-партызанску дакладны і своечасовы». І таму ў Барадуліна рэдка сустрэнеш замалёўку, сцэнку, карацей — звычны сюжэтны твор, у яго часцей прамая і адкрытая размова з чытачом, зварот да яго, заклік да роздуму, палемічнасць, адкрытая публіцыстычнасць. Усе сродкі свае багатае паэтычнае палітры паэт скіроўвае на штурм бастыёнаў бюракратыі, раўнадушнасці, сацыяльнай спячкі, прыстасавальніцтва.

Думаю, не сорамна будзе паэме Ведзьмака Лысагорскага стаяць на адной паліцы побач з кніжкамі вышэйназваных аўтараў.

Нямала сустракалася імёнаў пісьменнікаў і на старонках «Вожыка». З прафесіяналаў найбольш актыўна выступаюць Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Павел Місько, Мікола Гіль, Уладзімір Верамейчык і іншыя. Я, вядома, не назваў усіх аўтараў, бо і не ставіў перад сабой такую мэту. Мне толькі хацелася паказаць, што не такая ўжо неўраджайная наша сатырычная ніва, што нядрэнная каласіцца тут збажына, што маладым сатырыкам і гумарыстам ёсць у каго павучыцца, як урабляць сваю літаратурную дзялянку. І найбольш старанныя і здольныя вучацц Пра гэта, дарэчы, сведчаг прэміі імя Ведзьмака Лысагорскага, якія былі прысуджаны летась лепшым творам, надрукаваным у часопісе. Акрамя вядомых літаратараў, лаўрэатамі часопіса сталі Фёдар Лашкевіч, Іван Пяшко, Уладзімір Мацвеенка, Міхась Скобла, Сяргей Дзерышаў, Міхась Сліва.

Большасць жа сатырыкаў (дарэчы, такія ёсць і сярод ветэранаў), на жаль, мала дбаюць пра мастацкую якасць сваіх твораў, ім абы насмяшыць чытача. Само па сабе жаданне правамернае, але толькі ў тым выпадку, калі аўтар не абмяжоўваецца адно гэтым, а ідзе далей, да больш паглыбленага асэнсавання рэчаіснасці. Большасць жа аўтараў толькі тое і робіць, што ганяецца за смешным анекдотам, за смешным выпадкам, які ў сваёй сутнасці пазбаўлены ўсялякай думкі. Уражанне такое, што такія аўтары і не чулі пра падтэкст, пра яго абавязковасць у сатырычным творы, што іменна на стыку тэксту і падтэксту і іскрыцца маланкай знешне прыхаваная думка, ідэя твора.

Уражвае і тое, што ўсе, хто асноўнай мэтай ставіць для сябе абавязкова насмяшыць чытача, пішуць вельмі ўжо аднастайна, як па нейкай інструкцыі. Відаць, над многімі, калі не над большасцю аўтараў, вісіць учарашні дзень. У першую чаргу гэта праяўляецца ў масавасці эстрадных анекдотаў, якімі падмянялася і зараз падмяняецца сапраўдная сатыра. Эстраднікі — а яны не

нае стагоддзе, пільней зірнем ва ўласную душу». Гэта ж сярод нас *прамоўца* правільных і смелых слоў вязе маці ў страшны для яе дом, дзе «састарэлых хор развейвае самоту штонядзелю». Трэба мець чуйную душу, каб заўважыць такі натуральны і балючы жэст жанчыны:

**Шчакою трэшся аб стары вушак,**
**што быў заўжды надзейнаю апорай.**

Ненадзейнай аказалася апора... Губляе свет нешта важнае, радзей думаюць людзі пра высокае. І таму вельмі важна, што вершы Р. Баравіковай прымушаюць успомніць самае дарагое, роднае. Хоць бы той пасаджаны дзедам на ўспамін ля дарогі куст язміну, што ўбачыла паэтэса з акна цягніка:

**Цяпер той куст здаецца дварняком,**
**што некалі ляцеў усім пад ногі,**
**ён за любым бяжыць таварняком,**
**бяжыць... і застаецца ля дарогі.**

Нязвыклы, смелы, але зрокава і псіхалагічна дакладны вобраз.

Паэтэса ўмее зразумець і па-мастацку перадаць святло сапраўднага таленту ў старэчых вачах (верш «Птушачка»), роспач маці, якая тры дні шукае ў чужым горадзе не надта ўважлівага сына (як многа гаворыць трапная дэталь: зморшчаны яблык упаў з кішэні — сыну везла...), трагедыю жанчыны, якая так і не стала маці («Адзінота»). Гэта сведчыць аб сапраўднай чалавечай сталасці, глыбіні душы.

А вось яшчэ раз шчымлівае і трывожнае жаночае, мацярынскае адчуванне руху часу:

**...Некалі з птушынай чарадою**
**адыду ў свой незваротны шлях.**
**Ды хачу я,**
**каб у тую стынь,**
**што цяпла не сцеле над травою,**
**з годнасцю правёў дарослы сын,**
**а найлепш — з сівою галавою.**

**Хустачку нацягваю на скронь,**
**стала раптам холадна і горка...**
**Ці не з той дарогі на далонь**
**кінуў вецер лёганькае пёрка?**

Усё-такі значна глыбейшым стаў *позірк паэтэсы* на жыццё. Таму натуральна з'яўляюцца і ўпэўнена гучаць філасофскія матывы ў яе лірыцы( «Як часта ў свеце, бы ў *бязладнай хаце*...», «Старэюць людзі, дрэвы і кусты», «Назіранне», «Спадзе раса, і адшуміць калоссе...»). У гэтых вершах Р. Баравікова новая, больш уважлівая і чуйная да свету.

Драме кахання, нялёгкаму лёсу жанчыны прысвечана паэма «Саламея» — пра нашу зямлячку, падарожніцу, лекарку, пісьменніцу XVIII ст. Рэгіну-Саламею Русецкую-Пільштынову. У аснову твора пакладзены дзённікі Пільштыновай. Яны расказваюць аб прыгодах «доктара медыцыны», якой выпала на жыццёвых шляхах нямала: замужжа ў чатырнаццацігадовым узросце, жыццё ў далёкім Стамбуле, смерць мужа, няўдачы і цудоўныя поспехі ва ўласнай лекарскай практыцы (дарэчы, яна з поспехам выкарыстоўвала метады народнай медыцыны), уцёкі ад дамаганняў вяльможнага прэтэндэнта на трон Венгрыі князя Ракачы, падарожжа ў Вену, Пецярбург і многае іншае. Як бачыце, падзей і канфліктаў тут больш чым дастаткова для драматычнай паэмы. Але, абраўшы менавіта такую форму, Р. Баравікова зусім не клапоціцца аб чысціні жанру, паэма — лірычны твор. За імем Саламеі, той, «што жыве з агню» кахання, лёгка ўгадваецца асоба самой паэтэсы. Ці не тыповыя для лірычнай гераіні Р. Баравіковай радкі:

**...пакінь мяне, і я дажджынкай**
**ўпаду, каханы, у сляды.**
**...Ах, гэта ноч... Як дыхае спякотай!**
**Праклала поўня сцежку да прысад.**
**Даруй, мой боль, нязвыклая пяшчота**
**ўпусціла промнік радасці ў пагляд.**
**...ты—як цяпельца пасля доўгай стыні.**

Зборнік «Каханне» — цікавая, складаная, неадназначная з'ява. Тое, што не ўсё ў кнізе стала аднолькава сур'ёзным паэтычным набыткам, добра адчувае, відаць, і сама Р. Баравікова. Нездарма паэтэса піша:

**І мне не страшна быць адкрытай,**
**мой сталы воблік не абраз.**

Не абраз, а твар з жывымі і дапытлівымі вачыма.

**Вольга РУСІЛКА.**

г. Віцебск.

---

**толькі на сцэнах, але і на старонках часопісаў — заўсёды [к]арысталіся самымі прымітыўнымі сродкамі, не патрабуючы ад людзей удумлівасці.**

**Доўгі час у грамадстве сатыры адводзілася роля нават не блазна, а хутчэй гарохавага пудзіла, якое павінна было іншы раз з'яўляцца на сцэне жыцця і казытаць нервы сытым, каб ім весялей жылося. І не болей. Не так даўно мы гэта лічылі ледзь не заканамернасцю. З'явіліся нават акадэмічныя тэарэтыкі, якія на поўным сур'ёзе даказвалі, што аб'ект сатыры — толькі перажыткі капіталізму, якія хутка знікнуць, і тады, маўляў, сатыра застанецца без работы. Некаторым так нецярпелася, што гатовы былі раней часу адправіць на спачын гэтую музу, забыўшыся на тое, што, акрамя перажыткаў, былі і будуць набыткі спрадвечна супярэчлівага жыцця.**

**Праўда, некаторыя лічаць, быццам сатыра ў сваім развіцці любіць якраз супраціўленне, маўляў, яна лепей развіваецца тады, калі ёй не даюць развівацца. Калі б гэта была аб'ектыўная ісціна, бясспрэчна, мы сёння мелі б самую развітую, самую багатую сатырычную літаратуру ў свеце. Тут нам не было б роўных. Але, на вялікі жаль, у развіцці сатырычнай літаратуры мы адсталі не меней, чым у развіцці электронікі.**

**У адным са сваіх артыкулаў Васіль Вітка пісаў: «На задворках нашых літаратурных выданняў вельмі ж па-заліхвацку дзяруць лыка так званыя гумарысты, якія ў самой літаратуры лыка не вяжуць».**

**Ёсць горкая праўда ў гэтых словах.**

**Паглядзіце на нашы часопісы. Ва ўсіх іх сатыра жыве сапраўды на задворках, недзе ў зацененым закуточку, на апошняй старонцы.**

**Ды і самы сатырычны і самы гумарыстычны часопіс «Вожык» — чый ён? А нічый. Выдавецкі. За яго спіной ніякай арганізацыі, ніякай установы. Сірата. Зрабілі б яго выданнем Саюза пісьменнікаў і Саюза мастакоў. Можа б, гумар і сатыра набылі бацькоў?**

**У нашых памкненнях быць ва ўсім карыснымі справе пабудовы светлай будучыні мы часам усе праблемы краіны ўзвальвалі на плечы літаратуры і ледзь не яе лічылі вінаватай у тым, што недзе, на*прыклад, не ўрадзіла пшаніца*.**

**А сатыру ж яшчэ часцей некаторыя крытыкі і ідэалагічныя кіраўнікі скіроўвалі на вырашэнне тых пытанняў, якія уваходзілі ў кампетэнцыю гаспадарчых органаў і галіновых міністэрстваў. У выніку творы часцей нагадвалі пратаколы пасяджэнняў ці службовыя даведкі, што не магло не прывесці да росквіту ідэйна вытрыманага пустазелля на літаратурнай ніве.**

**Сатыра і гумар, як і ўся наша літаратура ў час перабудовы нашага жыцця, павінна назаўсёды пакінуць наезджаныя рэйкі палітыканства і вульгарнага сацыялагізму, павінна стаць тым, чым заўсёды была і павінна быць — мастацтвам, аб'ектам даследавання якога з'яўляецца чалавек. Яна на ўвесь голас павінна загаварыць пра яго ўдалыя і няўдалыя пошукі свайго шчасця, пра яго месца на зямлі.**

---

Т АКІ ўжо, мабыць, лёс беларускай літаратуры — мала што многім яе творцам не дадзена было напісаць таго, на што яны былі здатны, што маглі і хацелі, але шмат і з напісанага потым бясследна знікала, гінула. І пачалося гэта даўно, яшчэ з Сімяона Полацкага — ён, як вядома, у 1664 годзе *пакінуў радзіму*, пераехаў на сталае жыццё ў Маскву, дзе стаў настаўнікам царскіх дзяцей, заснавальнікам, як цяпер называюць, старой рускай паэзіі і драматургіі,

Не верыцца, што сабрана і выдадзена ўся спадчына В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, Ф. Тапчэўскага, А. Гурыновіча, А. Абуховіча, А. Ельскага, ды і К. Каганца, Цёткі, С. Палуяна, Ядвігіна Ш. У свой час, калі рыхтаваўся двухтомны акадэмічны збор твораў Максіма Багдановіча («Творы», Мн., 1927—1928), лічылася, што *спадчына яго сабрана*. Аднак жыццё пацвердзіла адваротнае: спадчына паэта не сабрана. Выяўлены новыя, раней невядомыя творы, друкаваныя і недрукаваныя — публікацыі, ру-

твораў у сямі тамах (Мн., 1972—76) асталося, па далёка няпоўных падліках, каля ста твораў паэта, прычым, многія з іх значныя — трагікамедыя «Тутэйшыя», паэма «На Куццю», «На Дзяды», «Чараўнік», цыкл тэкстаў песень «На вайсковыя матывы», а таксама многія вершы, артыкулы, лісты. Жыццё паказвае, што не ўсе творы *паэта* пакуль што выяўлены. Ляжаў у архівах яго перадсмяротны ліст да А. Чарвякова, ляжыць, як мне вядома, і яшчэ сёе-тое. Няма сумнення, што ў час вайны, калі ў дом

*Позірк у мінулае*

**Барыс САЧАНКА**

# Гараць ці не гараць РУКАПІСЫ?..

хоць першыя свае творы напісаў па-беларуску. А там і пайшло — сусветна слынны паэт, класік польскай літаратуры Адам Міцкевіч, нарадзіўшыся на Навагрудчыне, быў як рэдка хто захоплены сваім краем, палонены гісторыяй, фальклорам народа, сярод якога рос, беларускай мовай, «самай гарманічнай», як ён сцвярджаў, «і з усіх славянскіх моў найменш зменены», пісаў на ёй вершы. Але дзе, дзе тыя вершы?..

Трагічны лёс напаткаў творы і яшчэ аднаго пачынальніка літаратуры на беларускай мове — Паўлюка Багрыма: пасля крошынскага сялянскага бунту (1828 г.), у яго, тады зусім маладога панскага парабка, канфіскавалі некалькі сшыткаў вершаў (яны пакуль так і не знойдзены), а самога яго аддалі ў салдатчыну. Ад паэта, па лёсе, а можа быць, і па таленце, блізкага да Т. Р. Шаўчэнкі, астаўся адзін верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», які быў надрукаваны спярша ў Лондане ў кнізе І. Яцкоўскага «Аповесць майго часу ці літоўскія прыгоды» (1854 г.), а потым ў Познані (1858 г.).

Не дайшлі да сённяшняга чытача ў поўным іх аб'ёме і беларускамоўныя творы Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, Ф. Савіча, А. Рыпінскага, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Каратынскага, У. Сыракомлі ды і іншых. Настойлівыя пошукі нашых даследчыкаў беларускай спадчыны гэтых пісьменнікаў пакуль што багатых вынікаў не далі.

Да сённяшняга дня вядуцца пошукі друкаваных і рукапісных твораў Францішка Багушэвіча. Рэвалюцыянер па духу, удзельнік паўстання 1863 года, ён усё жыццё змушаны быў не прызнавацца, хто ён на самай справе,— працуючы ў судах, абараняючы сялян, ён пісаў на сваёй роднай мове вершы і друкаваў іх пад рознымі псеўданімамі — Мацей Бурачок, Рэўка з-пад Барысава... І не ў Беларусі, дзе было забаронена выдаваць кнігі на роднай мове, а за яе межамі — у Кракаве, Познані... Трэцяя яго кніга паэзіі «Скрыпачка беларуская» так і не пабачыла свету. Акрамя вершаў, пісаў Ф. Багушэвіч і апавяданні. Стараннямі нашых руплівцаў чатыры з іх знойдзены, прычым адно — «Тралялёначка», — можна сказаць, зусім нядаўна, ужо на нашай памяці. Знойдзены і лісты Ф. Багушэвіча, яго публіцыстыка... А ўсё астатняе, што ён пісаў? Няўжо і праўда яно беззваротна загінула?

капісы, фотаматэрыялы. Да таго ж, як гэта даказаў Рыгор Жалязняк, працуючы над дысертацыяй, рукапісная спадчына, якую перадаў Акадэміі навук БССР бацька паэта А. Ю. Багдановіч, не заўсёды па-належнаму была прачытана. Справа ў тым, што, як паведамлялі тыя, хто працаваў над гэтай рукапіснай спадчынай, «почырк М.Б-ча вельмі прыгожы і выразны ў чыставіках, у чарнавых накідах пераходзіць у надзвычайна дробны і нячытэльны», і таму «часам нават праз лупу немагчыма было разабраць напісанае». (М. Багдановіч. Творы. Т. 2. стар. 386—387). Сёе-тое ў творчасці класіка беларускай літаратуры ўдалося ўзнавіць, дапоўніць. Праца над яго спадчынай была б куды больш плённай, калі б захаваліся тыя матэрыялы, якія ў свой час перадаў АН БССР бацька паэта — аж чатырнаццаць папак! Мяркуючы па «апісу» (ён прыкладзены да другога тома твораў паэта), там было што і расчытваць, і ўдакладняць, і вывучаць. На жаль, усе тыя матэрыялы загінулі ў вайну. Так лічылася і лічыцца. Але... Ці не захапіў хоць частку іх хто-небудзь, не схаваў, а то, можа, і вывез за мяжу?..

Доўгі час па-за ўвагай даследчыкаў аставалася творчасць і яшчэ аднаго класіка нашай літаратуры Алеся Гаруна. З дзвюх некалі падрыхтаваных Інбелкультам кніг яго твораў выйшла з друку толькі адна. На шчасце, другая таксама ацалела, праўда, без канца. Ці ўдасца сабраць зноў усе творы пісьменніка пад адну вокладку? Асабліва тое, што нідзе не друкавалася, не змяшчалася на старонках перыядычных выданняў, засталося ў рукапісах? Жыццё не песціла паэта-рэвалюцыянера — арышт, высылка ў Сібір на катаргу, потым разбураны вайною Мінск, адступленне ў Кракаў і смерць. Ці былі пры пісьменніку рукапісы яго твораў? А калі былі, то дзе яны?..

Адна з самых даследаваных і вывучаных спадчына Янкі Купалы. Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» нават выдала энцыклапедычны даведнік «Янка Купала» — першы ў гісторыі нашага народа, дзе жыццё і творчасць народнага песняра, нягледзячы на некаторыя недахопы, разгледжана грунтоўна і, што называецца, з розных бакоў. Але спадчына Я. Купалы яшчэ не сабрана, ды і не выдадзена як след. Па-за апошнім акадэмічным зборам

паэта трапіла бомба, там згарэлі разам з рукапісамі і многія творы, якія так і не пабачылі свету. Няўжо нічога з тых ненадрукаваных твораў не *захавалася? На руках, у архівах?* Ды і рукапісы ж песняра разляцеліся — у выдадзеным за мяжою бібліяграфічным даведніку «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе» (Нью-Йорк. 1985 г.) пазначана аж восем. Сярод іх рукапісы такіх твораў, як «Безназоўнае» (7 вершаў), паэмы «Курган» і іншы. Так што і тут ёсць яшчэ што адкрываць...

Даволі грунтоўна даследавана і творчасць яшчэ аднаго нашага найвыдатнейшага песняра Якуба Коласа. Творы яго таксама выдадзены паўней, як іншых беларускіх пісьменнікаў,—апошні збор у чатырнаццаці тамах (Мн., 1972—1978). Але зноў жа нельга сказаць, што *ў гэтым зборы змешчана* ўсё вартае ўвагі. У яго не ўвайшлі некаторыя надрукаваныя ў свой час вершы, апавяданні, артыкулы, асталіся па-за ім і многія рукапісныя творы—вершы, лісты. Дасюль, нявыяўленым застаецца і другі варыянт паэмы «Сымон-музыка», над якім Я. Колас працаваў некалькі гадоў. Калі ж праца над паэмай была закончана, паэму ўкралі разам з чамаданам у 1924 годзе па дарозе з Кіславодска ў Мінск. Хто ўкраў? Выпадковы злодзей? А мо... Пра паэму, пра тое, што «паэт пакідае толькі канву», «а ўсё іншае мяняе» пісалася ў часопісе «Полымя» (1923 г., № 7—8). Ці не прывабіла гэтае паведамленне каго-небудзь з надта пільных людзей, бо ўвага да Я. Коласа і таго, што ён робіць, у той час была асаблівая — ён быў пляменнікам Язэпа Лёсіка, які якраз тады *неаднаразова выклікаўся следчымі* на допыты па самых розных справах. Адна з іх — выхад у свет першага нумара літаратурна-навуковага весніка Інбелкульта «Адраджэнне» (1922 г.), дзе нямала старонак прысвечана творчасці песняра. Ды і сам Якуб Колас быў пад пэўным наглядам — рыхтаваўся ж судовы працэс над слуцкім настаўнікам Ю. Лістападам, на які потым выклікаўся ў якасці сведкі і сам пясняр... Дарэчы, прамільгнула было паведамленне, быццам злодзей злоўлены, але паэмы аўтару так ніхто і не вярнуў... Давялося пісаць трэці варыянт, які і прыняты за кананічны.

**(Працяг на стар. 8—9).**

Проза

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



# Пра тое, ЯК Я ЎДЗЕЛЬНІЧАЎ у навагоднім баль-маскарадзе

Апавяданне

Установа ў нас нічога — навукова-даследчая, вывучае ўсё, даследуе і ніводзін Новы год не прапусціла без баль-маскараду.

Раней так было.

Нацягнеш на сябе якога-небудзь зайчыка, матлянеш два разы вушкамі і за гэта прафком дае «моркаўку»: блакнот які-небудзь з добрушскай фабрыкі «Герой працы», ці пушачку з канцылярскімі кнопкамі № 2 з гомельскага ГПЗ-12. Кажучы коратка — абы-што падарункі. Але што лепшага было чакаць у тыя дні, калі ўсіх душыў крыважэрны застой.

Ну а цяпер, у слаўную эпоху гаспадарчага разліку, ніякіх табе блакнотаў і кнопак. Чытайце аб'яву — за лепшы маскарадны касцюм прафком, як бацька добры, пяцьдзесят рублёў адлічвае. Сінімі літарамі напісана.

Хаця тут пачухацца трэба, усёй фізіялогіяй варухнуць. Ясна ж: ранейшым зайчыкам не вылавіць зялёненькую. У буйнейшага звера трэба ўлазіць і не толькі морду хаваць — усё астатняе таксама.

Паглядзеў я на сябе ў люстэрку, нават язык высалапіў. Што ж такое вырабіць, якую маску вычаўпці, каб гэта адразу журы самлела, а прафком замест аднаго канверта два зліплыя ўручыў?

Вядома, не адзін я з такімі думкамі пакутнымі. Навакол таксама думаюць, каля аб'явы, нібы каля стала заказаў, топчуцца, умовы конкурсу ў кніжкі запісныя натуюць. Грунтоўна рыхтуюцца калегі-навукоўцы.

Канкурэнты!

Ткнуўся я тады ў бібліятэку. Гартануў газеты, часопісы. Няўжо родная перабудова не выратуе, без ідэі пераможнай пакіне?

І што ж вы думаеце — не пакінула! На такі план навяла, што аж калатнула мяне ад пятак да скіўіцаў самых. Калі толькі ўсё зрабіць так, як над газетамі падумалася, калі ні ў чым не змыліцца, а перш за ўсё ў голасе, у жэстах, і, само сабой, у адзенні, то не толькі прафкомаўская прэмія скокне ў маю кішэню, а будзе забяспечана мне вечная пашанота ад нашага па ўзросту ўжо пенсійнага, а па духу ўсё яшчэ камсамольскага начальства.

Дзякуй богу: час яшчэ ёсць і на рэпетыцыю, і на амуніцыю.

І тым не менш, я неяк адразу стаў баяцца спазніцца, а яшчэ больш прагаварыцца. І ад прыкрай думкі, што не стрымаюся і, сам таго не хочучы, раскрыю свой цудоўны план, я тут жа ў бібліятэцы хваравіта збялеў і з такім падвальным скрогатам сціснуў зубы, што бібліятэкарка, кінуўшыся да мяне, уваткнула мне ў рот аловак, каб расцяць скіўіцы, і, мусіць, чакаючы, што ў мяне прыпадак локцем спіхнула на падлогу ўсе да аднае падшыўкі.

З гэтага дня, хаваючыся ад усіх, пачаў я рыхтавацца да навагодняга маскараду. Вырашыў нічога нідзе не прасіць, не пазычаць, каб, крый божа, не здагадаліся.

Час паказаў, што я майстар канспірацыі. Падрыхтоўка прайшла па ўсіх канонах падпольнай работы. Патрохупатроху, гузік да гузіка і торба з неабходным рэквізітам зрабілася поўная. Адзенне, сям-там прыхопленае іголкай, падышло як мае быць, мяккую паходку я адпрацаваў, велічныя жэсты — таксама, некалькі значных фраз навучыўся гаварыць характэрным голасам, валасы зачасаў па памятным усім узоры, для большай пэўнасці нават жончыным лакам прыціснуў. Толькі вось трохі з вусамі выходзіла няўпраўка. Спачатку, запусціўшы іх, спадзяваўся, што да свята вырастуць. Аднак раслі яны марудна, выбіваліся нейкімі брыдкімі кусцікамі і да таго ж закручваліся ў колцы. Нават на дохлага ката я не быў падобны, а не тое што... Узнерваваны, браўся тады я за брытву. Пасля — за бутэлечку з тушшу. Густа мазаў пад носам квачыкам, старанна расціраў пальцам і з надзеяй падыходзіў да люстэрка.

Зноў не тое.

Нейкі недакормлены тэрарысцік стаяў у люстэрку з чорным закрывалкам. Ды не на вачах, як гэтага патрабуе нялёгкая служба тэрарызму, а пад носам. Такога, нягеглага, апраўдалі б нават і няўмольныя суддзі з Тэль-Авіва...

Мусіў тады, не шкадуючы, адцяць ад старога цыгейкавага каўняра добрую лапіну чорнага футра. Падсунуў тую лапіну пад нос і шчасліва ўздыхнуў. На клей пасадзіць і будзе тое, што трэба.

Не стану ўтойваць — за дні рэпетыцый сваіх і такіх вось прымерак схуднеў я. Маё круглае чэраўца зрабілася пляскатым, як стол, нос выцягся панчохай, нават адна рука папрутчэла, гнуцца, як след, перастала. Па нервах мяне стукнула, ці што?

Павёў тады плячом марудна, локцем, як завесамі, рыпнуў і ўзнялася мая рука ўдубянелая неяк урачыста, ну, зусім па-царску. Вось ён, узрадаваўся я, — жэст, памятны гісторыі. Журы перад ім, як гарох, рассыплецца разам з прафкомам.

Шчыра скажу, марыў я пра маленькую перамогу, ну пра які тулончык невялікі, а тут адразу ўсе аўсцярліцы ўпалі да маіх ног.

І вось як было.

Надышоў, нарэшце, той баль-маскарадны вечар. Канкурэнты мае, вядомая справа, хто ў чым прыпёрліся. Лёгка можна здагадацца, што былі тут усе гэтыя, ватай напханыя, зайцы і мядзведзі, прынцы й мушкецёры, арлекіны й мальвіны, драконы і вярблюды. Свінняў было тры штукі, адна ў адну — хоць ты ў хлеў заганяй. Натуральна, што быў чорт, на гэты раз вельмі ачалавечаны — у масцы бюракрата з тэлефонам на шыі. Нават нехта сноўдаўся каля ёлкі ў фраку Пячорына і за гэтым бледным Пячорыным неадступна хадзілі два Паўкі Карчагіны з маўзерамі напагатове.

Я ж пакуль не пераапранаўся, толькі цыгейкавыя вусы наляпіў. Трымаў усё сваё начынне ў торбе каля нагі.

А тым часам шыкоўны карнавал пайшоў. Аркестр на ўвесь дых уляпіў «кракадзіла Гену», бібліятэкарка, пераапранутая ў камбінезон трактарысткі Ангелінай, стала крыкам заказваць танец сваёй нядаўняй маладосці «бугі-вугі», а бледны Пячорын, убачыўшы чорта-бюракрата з тэлефонам на шыі, спапяліў яго пагардлівым позіркам. Са школкі вядома, што Пячорын не здатны, як Кацярына Астроўскага, на рашучыя ўчынкі. Толькі й можа вось так — вочы састроіць.

Трэба яшчэ дадаць, што на шведскіх сталах ляжалі савецкія бутэрброды. Ясна, што за яда... Але на той жа скандынаўскай мэблі стаяў яшчэ і наканьячаны чай! Хто мог, а маглі, вядома, усе, той браўся за кухлік з адмысловым чаем і куляў яго сабе пад маску. Я пакуль што асцерагаўся куляць, памятаючы пра сваю торбу. Толькі так злёгку тры разы смактануў з бліжэйшага цэбрыка.

Пенсійнае журы, таксама папіўшы чаю, пачало пацiху рахавацца. Што тут казаць — людзі немаладога веку, і заўсёды карціць усё раней скончыць. Я ўжо хацеў быў крыкнуць, каб пачакалі — я ж яшчэ свайго коніка не выкідваў. Ды ў гэты самы момант да ёлкі ў сярэднеазіяцкім халаце выйшаў наш дырэктар.

Дарэчы, дарма ён пераапранаўся ў ў закаспійскую світку. Хоць на асла яго зараз пасадзі, усё роўна кожны скажа, нават здалёку зірнуўшы,— ці не Рыбентроп гэта ўсеўся на Хрыстовы транспарт? Што ёсць то ёсць. Вельмі ўжо ж падобны дырэктар наш на сябрука Вячаслава Міхайлавіча.

Па звычцы дырэктар хацеў прыўзняць капялюш, каб выцерці мокры лоб. Ён толькі што ў два бакі добра-такі паскакаў вакол ёлкі з бібліятэкаркай, якая мела моду свае любімыя бугі-вугі завяршаць больш дынамічным ча-ча-ча.

Пашукаў гэта дырэктар капялюш, памацаў сабе, як хвораму, лоб, а на лбе — чалма. Ды што тут паробіш,

## ПРЭМ'ЕРА КНІГІ Ў ІНСТЫТУЦЕ

У Мінскім інстытуце культуры адбылася прэм'ера кнігі «Творы» Янкі Лучыны, выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура». У госці да студэнтаў і выкладчыкаў прыйшлі рэдактар Л. Законнікава, укладальнік У. Мархель, перакладчыкі вершаў Я. Лучыны І. Чыгрын, М. Арочка, Г. Тумаш, крытык Г. Шупенька, вядомы вучоны-літаратуразнавец А. Мальдзіс.

Уступным словам сустрэчу адкрыў загадчык кафедры літаратуры інстытута М. Грынчык.

Усе выступаючыя гаварылі пра творчую спадчыну Янкі Лучыны — аднаго з папярэднікаў і настаўнікаў Я. Купалы і Я. Коласа, чыталі вершы Я. Лучыны ў сваіх перакладах, адказалі на пытанні прысутных. Аднадушна была ўхвалена прапанова А. Мальдзіса аб увекавечанні памяці Я. Лучыны і ўстанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе некалі размяшчалася Упраўленне Лібава-Роменскай чыгункі, у якім у свой час працаваў Янка Лучына.

**В. МАСЛОЎСКІ.**

# Гарацъ ці не гарацъ РУКАПІСЫ?..

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7).

Максім Гарэцкі. Цяпер ён прызнаны аўтарытэт нашай літаратуры, яе паўнамоцны класік. А яшчэ ж зусім нядаўна яго імя і не ўспаміналася ў падручніках і хрэстаматыях, а калі і ўспаміналася, дык ледзь не з лаянкай. І добрае імя вярнулі яму яго творы, што да пары, да часу ляжалі ў рукапісах, былі невядомы ні даследчыкам, ні чытачам. Раман «Віленскія камунары» знайшоў у рукапісным аддзеле Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Літоўскай ССР (г. Вільнюс), передрукаваў і прывёз у рэдакцыю часопіса «Полымя» нястомны Янка Шутовіч — былы рэдактар-выдавец заходнебеларускага квартальніка «Калоссе». Услед за раманам «Віленскія камунары» былі надрукаваны іншыя творы пісьменніка — апавяданні, аповесці, раман «Камароўская хроніка», што гадамі ляжалі ў рукапісах. У 1984—1986 гг. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў збор твораў пісьменніка ў чатырох тамах. Цяпер рыхтуецца дадатковы пяты том. Але і ён не ўбярэ ўсяго таго, што напісаў, пакінуў нашчадкам гэты нястомны і таленавіты працаўнік — празаік, драматург, крытык, публіцыст, вучоны, даследчык-літаратуразнавец. Акрамя аповесці «Дзве душы», «Гісторыі беларускай літаратуры», многіх і многіх артыкулаў, што змяшчаліся і ў дарэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных выданнях, асталася немалая рукапісная спадчына—аповесць пра жыццё у высылцы, запіскі, лісты... Трапляліся мне на вочы, калі працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя» і напісаныя яго рукой апавяданні, на некаторых з якіх стаялі рэзалюцыі: «Не друкаваць. Накіраваць у НКВД». І размашысты подпіс літаратара, які ў той час працаваў на адказнай пасадзе ў Галоўліце. Дзе тыя апавяданні, у якім з архіваў іх шукаць?..

Наогул, архіўная гаспадарка ў Беларусі, ды, мабыць, і не толькі ў Беларусі, патрабуе асобнай размовы. Дзе што шукаць, у якім з архіваў знаходзіцца тая ці іншая справа? У свой час быў створаны Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (потым ён стаў архівам-музеем) БССР. Але... Калі б яму пры ўтварэнні, ці хоць бы пасля былі перададзены ўсе матэрыялы і дакументы, што датычаць літаратуры і мастацтва. А так... Скажам, у 1930 годзе была арыштавана разам з вучонымі і вялікая група пісьменнікаў — той жа М. Гарэцкі, У. Дубоўка, Я. Пушча, А. Бабарэка, У. Жылка... Вядома, пры арыштах праводзіліся вобыскі на кватэрах (іншы раз і без арыштаў, як гэта было, напрыклад, у Я. Коласа), забіраліся як «кампрамат» рукапісы закончаных і незакончаных твораў, а таксама пісьмы, дзённікі і г. д. Дзе ўсё гэта сёння шукаць? Ды і іншыя творы літаратуры, што забіраліся потым пры ўсіх арыштах?.. Знішчаны яны, ці ўсё ж дзесьці захаваліся? Якая сакрэтнасць у гэтых творах ці рукапісах? Хіба што яны даказваюць — іх аўтары ні ў чым не вінаватыя, былі пазбаўлены волі, а то і жыцця нізашто... Пытанні гэтыя не дасужыя, а вельмі важныя для нашай літаратуры, улічваючы, што больш за сто (123) беларускіх пісьменнікаў былі рэпрэсіраваны. І ў кожнага ж з іх пры арышце нешта забіралася. Андрэй Мрый, напрыклад, у лісце «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну» прызнаваўся: «Але, каюся, мяне ніколі не пакідала думка пра літаратуру. Увесь час працягваўся літаратурны сверб. За час з 1934 года я напісаў шмат навел, аповесцяў і раман з лагернага жыцця «Жывы дом» («Полымя», 1988, № 1). Дзе сёння гэтыя творы, ды і ненадрукаваныя «скруткі» «Запісак Самсона Самасуя»? Нарэшце, вернуты літаратуры «Дзённік» Кузьмы Чорнага, «Лісты да жонкі» Сымона Баранавых, «Аповесць для сябе» Барыса Мікуліча, апавяданні Лукаша Калюгі. Выяўлены ў архівах, дарэчы, прыхопленыя з выдавецтва вядомым прайдзісветам ад літаратуры Л. Бэндэ, карэктура зборніка вершаў З. Астапенкі «Як шум дажджу», што так і не выйшаў, і падпісаны да друку рукапіс зборніка вершаў «Смарагды кроз» Сяргея Астрэйкі — яны таксама неўзабаве пабачаць свет... А ўсё астатняе? Дзе раман «Крывічы» Міхася Зарэцкага, які пачаў друкаваць

калі пот цурчыць. Мусіў дырэктар расплесці гэту арафатаўку, каб хоць ёю выцерціся. Дык вось выціраецца ён, пасля танцаў здыхацца не можа, але ўсё ж прынцыпова гэтак звягае да ўсіх — таварышы, маўляў, сябры, сярод нас ёсць тыя, хто не захацеў выканаць умоў конкурсу і прыплёўся, даруйце, прыйшоў на свята без маскарадных убораў. Узвысім наш голас абурэння, сябры і таварышы, і пакажам на іх пальцам...

Гэта так ён пажартаваў, але пальцам крывым усё ж тыцнуў. І ясна ў каго — у мяне.

— Што вы, таварыш (пасля з'едлівага звароту «таварыш» ён на памяць зачытаў усё напісанае на першай старонцы майго пашпарта), толькі вусы наляпілі, дзе ваш касцюм навагодні?

— Трошкі пачакайце (я таксама назваў дырэктара па пашпарту), праз хвіліну буду гатовы.

Выперся гэта я з агульнай залы, звярнуў за рог, расперазаў сваю тарбіну і — аблачыўся.

Калі вярнуўся, аркестр, выпільваючы: «дзевачка Таня, чаво табе нада», не пакідаючы іграць, увесь — да апошняга смыка — неспадзявана заляскаў зубамі. З кожнай секундай зубоўны ляскат узмацняўся і ўзмацняўся, пакуль дарэшты не заглушыў варожую «дзевачку Таню».

У парозе я наўмысна прыпыніўся, разламаў дзве папяросы «Герцагавіна Флор», духмяным тытунём натаптаў люльку, шкрабянуў запалкай і, пыхнуўшы два разы гаючым дымком, прыкурыў.

Вакол мяне на дыбачках стаяла круглая цішыня. Пах каньяку паволі змешваўся з высакародным водарам «Герцагавіны Флор». Зайцы перасталі скакаць, свінні рохкаць, мядзведзі працягваць лапу, драконы выпускаць дым, а вярблюды, зразумела, плявацца.

Дырэктар-рыбентроп стаяў у напалове раскручанай чалме і вольным яе канцом, на ўсякі, відаць, выпадак, стаў звязваць сабе ногі.

Трымаючы ў напаўсагнутай руцэ люльку, я мякка ступіў хромавымі ботамі па паркеце — рушыў у глыбіню залы.

Бібліятэкарка ад страху прысела і хацела накрыцца. Але чым? На ёй толькі ж, памятаеце, трактарысцкая амазонка. Беднай жанчыне давялося з адкрытай галавой паўзці хавацца пад ёлку. За ёю ўслед пасыпаліся ўсе гэтыя мальвіны й арлекіны, і яшчэ нехта з рагамі. Прынцы ж і мушкецёры, паклаўшы рукі на шпагі, пакуль яшчэ захоўвалі спакой. А вось інтэлігент Пячорын, дурань, тузануўся — пратэставаць захацеў, ці што? — Тады Паўкі Карчагіны ўзнялі свае паслухмяныя маўзеры і замест кампрэсу прыклалі іх да гарачай інтэлігенцкай галавы. Такія рашучыя лекі, як выявілася праз імгненне, больш паўздзейнічалі на ўтрусянелы аркестр — ён адразу ж урэзаў «Інтэрнацыянал».

З імператарскай лянотаю, узняўшы правую руку, я спыніў музыкаў.

— Прывэтствую вас, дарагіе таварышчы і паздраўляю сы праздныкам (зусім па-грузінску звярнуўся я да журы).

Яшчэ і ў гэты момант я марыў, як ужо прызнаваўся тут, пра маленькі свой Тулон. Я сапраўды думаў толькі пра пяцьдзесят рублёў, якія з асалодаю апушчу ў глыбокую, цяпер ужо генералісімускую, кішэню, але тут, наогул кажучы, мільёны пасыпаліся...

Пасля майго шчырага вітання наканьячанае журы падхапілася і выгукнула як па камандзе:

— Слава Вівосіпу Вісарывонавічу, сла-в-ва!

— Сла-в-ва! — падхапілі зайцы, свінні, мядзведзі, вярблюды і, здаецца, усе астатнія. Нават з-пад ёлкі нехта пішчаў мне славу. Мусіць, бібліятэкарка.

Яна, дарэчы, ужо выпаўзала на волю, распіхвала ў бакі няўцямлівых мальвінаў і арлекінаў, адначасова робячы мне нешта падобнае на кніксен.

Бібліятэкарка глядзела на мяне аддана. Мужная жанчына. Не падымаючыся, яна папаўзла выбаўляць дырэктара з карнавальнае чалмы.

— Вівосіп Вісарывонавіч, вы... да нас... праз столькі часу (вызвалены з чалмы, дырэктар хацеў ад радасці ўпасці мне на грудзі, але я стрымаў яго сталёвым позіркам. Я баяўся, што ў экстазе ён можа паадкусваць з маіх пагонаў генералісімускія зоркі)... А ў нас такое робіцца ў краіне... дарагі Вівосіп Вісарывонавіч... такое робіцца...

Дырэктар не вытрымаў і заплакаў.

Журы таксама заплакала.

«Што яны ...падурэлі (падумаў я), няхай даюць пяцьдзесят рублёў і ўсё тут. Па ўсім жа відаць, што мая апранаха лепшая...»

Я ўжо хацеў сказаць пра гэта, як тут, адштурхнуўшы абодвух карчагінцаў, на сярэдзіну залы выбег бледны Пячорын.

— Таварышы, вы што, аслеплі ці чаю перапілі?.. У нас баль-маскарад... свята... А вы ўсё ў дрэнную палітыку перакруцілі і вам павінна быць сорамна (Пячорын звярнуўся да дырэктара), вам таксама (выдаў порцыю журы), а вам асабліва (гэта ўжо мне)...

І што я тут бачу! Слёзы дырэктара пасля пячорынскай філіпікі неяк адразу павысыхалі; журы, гэта старое шмоцце, пачало збянтэжана сівую патыліцу шкрэбці; а да Пячорына пасаюзніцку падступілі прынцы і мушкецёры.

«Ах, сволачы, грошы мае хочаце заціснуць, тады я раскручу вас на ўсю вяроўку...»

— Лаўрэнцій (гукнуў я ў прастору, ні на што пакуль не спадзеючыся)!..

На «лаўрэнція» імгненна адгукнуўся наш адказны за грамадзянскую абарону Пятро Пятровіч. Былы палкоўнік, ён папёр на мяне страявым крокам. Не спыняючыся, Пятро Пятровіч наставіў каўнер пінжака і пад самае горла падгарнуў улогі. Пінжак стаў падобны на фрэнч. І яшчэ Пятро Пятровіч паспеў на хаду ператварыць акуляры ў пенснэ — абламаў на іх дужкі.

— Слухаю вас, Вівосіп Вісарывонавіч!

Мяне аж сцепанула. І нядзіва. Так нечакана ўбачыць каля сябе самога Лаўрэнція! Аднак перамог я здрадніцкі спалох і канчаткова зжыўся з роляй правадыра.

— Лаўрэнцій (ціха, зусім ціха сказаў я), вы этом зале прысутствуют подлые агенты імперыялізма і перві із ных...

Музыканты пападалі, прыкрываючы галовы пюпітрамі. Журы, як трэба было чакаць, палезла пад стол. Мужная бібліятэкарка закрыла сабой дырэктара. Мальвіны з арлекінамі так і засталіся пад ёлкай. Зайцы, свінні, мядзведзі драконы і нават вярблюды перабеглі на мой бок. Прынцы і мушкецёры, так і не выцягшы сваіх шпагаў, адступілі да шведскага стала. Карчагіны зноў узнялі свае паслухмяныя маўзеры і, не чакаючы каманды, пачалі цэліцца ў патыліцу Пячорына...

Марудна з кута ў кут я прайшоўся па зале, чуючы толькі сваё дзяржаўнае дыханне. Як скіпетр, у левай руцэ нёс перад сабой патухлую люльку. Увагнуўшы галаву, я зноў распаліў яе і падумаў: «Што ў параўнанні з т а к о й вось люлькай усе гэтыя шпагі і маўзеры...»

— У падвал яго, расстраляем пасля (ужо не хаваючыя, па-беларуску загадаў я начальніку грамадзянскай абароны).

— У падвал Пячорына! Вядзіце туды, дзе ляжаць працівагазы (крыкнуў Карчагіным мой адданы Лаўрэнцій)!

Дырэктар-рыбентроп выйшаў з-за бібліятэкаркі і ўпаў перада мной на калені.

— Вівосіп Вісарывонавіч, пашкадуйце нас і не пакідайце!

— Не пакіну (суцешыў я).

## *Надзёныя радкі*

**Мікола КАВАЛЕЎСКІ**

### АНАТОМІЯ ЗАСТОЮ

Праіснаваць бясхмарна, роўна
жадалі блізкім і сабе —
інертнасці застойнай коўдра
нас ахінала пакрысе...

Пачуццяў быццам не хавалі,
але драбнеў сяброўскі стол —
размовы, спрэчкі нашы сталі
ці пра хакей, ці пра футбол.

На сходах быццам не маўчалі,
але не лезлі на ражон —
калі каго крытыкавалі —
не вельмі ўзрушаўся ён.

Сумлення быццам не гублялі,
але з гадамі ўсё часцей
пра асабісты клопат дбалі —
шукалі месца, дзе цяплей.

Пачуццяў быццам не хавалі,
на сходах быццам не маўчалі,
сумлення быццам не гублялі,
ды толькі сэрцамі згасалі...

### ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ...

Памяці У. С. КАРАТКЕВІЧА

Паляванне гуляла —
Думкі, памяць знішчала.
Паляванне гуляла —
Страх, бяду раздавала.

Паляванне гуляла —
Душы, сэрцы таптала.
Паляванне гуляла —
Зло размах набірала.

Паляванне гуляла —
Хабар брала, ілгала.
Паляванне гуляла
І сумленне губляла.

Паляванне гуляла
Ды зямля застагнала,
Ды нарэшце ў народа
Цярпення не стала.
Паляванне гуляла
Ды ганебна сканала...

...Але здаецца мне парой:
Не згіне страшная легенда
Пакуль хоць у душы адной
Жыве ці Стах,
ці Берыя,
ці Бэнда...

часопіс «Полымя», але так увесь і не надрукаваў? Мяркуючы па адным з артыкулаў А. Канакоціна, што змешчаны ў яго кнізе «Літаратура — зброя класавай барацьбы» (Мн., 1933 г.) гэты раман ён, тады загадчык аддзела ЦК КП(б)Б, чытаў. Значыцца, раман быў закончаны... Да слова, трэба прызнаць, што М. Зарэцкаму не надта шанцуе з публікацыямі твораў — дасюль неперавыдадзены яго шумна вядомая аповесць «Голы звер» (1926 г.), нарысы «Ceні-крывавай мінуўшчыны» (1927 г.), «Падарожжа на новую зямлю» (1929 г.) ды і многае іншае.

Чакае свайго ўдумлівага даследчыка і публікатара і вялікая, разнастайная спадчына Уладзіміра Дубоўкі. Колькі артыкулаў на самыя розныя тэмы надрукаваў ён у адным толькі часопісе «Узвышша»! А колькі сваіх твораў потым ён, вярнуўшыся з «мест не столь отдаленных» прапаноўваў рэдакцыям, а іх так і не надрукавалі!.. Паэмы, вершы, п'есы... Змешчаны некаторыя яго творы і за мяжою. Проста дзіву даешся, маем столькі даследчыкаў роднай літаратуры, столькі крытыкаў, а творчасць такога выдатнага прадстаўніка нашай літаратуры так і не даследавана па-належнаму. Ды і не выдадзена...

Не выдадзены, як таго заслугоўваюць, і творы Язэпа Пушчы. Няма кнігі артыкулаў ды і апавяданняў Адама Бабарэкі. Добра, што рыхтуецца другое, найбольш поўнае, выданне твораў Лукаша Калюгі. Але не трэба забываць, што Л. Калюга паспеў надрукаваць у часопісе «Полымя» (1931, № 6—7) толькі першую частку «Нядолі Заблоцкіх», астатнія часткі асталіся ў рукапісе. Дзе яны? У выданні «Нядолі Заблоцкіх», што выйшла за мяжою, пераказаны змест ненадрукаваных частак. Можа, не губляць надзеі, пашукаць іх? Ды і, як сведчаць тыя, з кім Л. Калюга ліставаўся, адбываючы высылку ў Ірбіце, там ён напісаў раман «Пустадомкі». Зноў жа — ці не пашукаць і яго? Надзеі знайсці, вядома, мала, і ўсё ж... Як кажуць, а раптам— чым чорт не жартуе...

Хацелася б ведаць, і дзе знаходзіцца архіў самога згуртавання «Узвышша», а таксама часопіса пад той жа назвай. Аб'яўленыя ў свой час «контррэвалюцыйнымі», «нацдэмаўскімі», «кулацкімі», і сама арганізацыя і часопіс былі разгромлены. Але ж некаторыя матэрыялы былі забраны як доказы, «кампрамат» і фігуравалі ў справах арыштаваных. Дзе, у якім архіве яны знаходзяцца цяпер?..

Не выдадзены пакуль што поўна, з адпаведнымі каментарыямі і тлумачэннямі творы Уладзіміра Хадыкі. Частка яго вершаў так і засталася ў газетах і часопісах таго часу, калі жыў і друкаваўся паэт, частка змешчана ў кнізе пасля ўжо яго рэабілітацыі, але не цалкам, а са скарачэннямі. Калісьці выдаць усю спадчыну У. Хадыкі браўся Варлен Бечык. Хто, хто возьмецца цяпер? А Міхась Чарот? Няўжо той двухтомнік, што выйшаў трыццаць год таму назад; гэта і ўсё, што засталося вартае са спадчыны песняра рэвалюцыі і першых год Савецкай улады на Беларусі? Быў раман пад назваю «Ён» і ў Платона Галавача. Былі творы, якіх мы дасюль не чыталі, і ў Барыса Мікуліча, і ў Васіля Каваля, і ў Сымона Баранавых, і ў Тодара Кляшторнага, і ў Васіля Шашалевіча, і ў Сяргея Дарожнага, і ў Уладзіслава Галубка, і ў Юлія Таўбіна... Ды і ва ўсіх астатніх, вядомых і, на жаль, зусім невядомых, маладых пісьменнікаў, каго арыштоўвалі і хто так і не вярнуўся са сталінскіх турмаў і лагераў—загінулі хто раней, хто пазней. А які лёс напаткаў іхнія напісаныя, але так нідзе і ненадрукаваныя творы?.. Таксама беззваротна загінулі ці дзе-небудзь ляжаць у архівах?.. А, можа, сёе-тое і прысвоена нячыстымі на руку людзьмі, тымі, хто дапамагаў выкрываць і арыштоўваць «ворагаў народа», выдадзена за іншымі — сваімі — прозвішчамі?..

Вялікі гістарычны раман напісаў Рыгор Мурашка. У бытнасць маёй працы ў рэдакцыі часопіса «Полымя» мне пашанцавала чытаць гэты раман, рыхтаваць да друку. Але выявілася — урыўкі з рамана змяшчаліся ў час вайны ў прафашысцкай «Беларускай газэце». І раман імгненна знік з рэдакцыі ў невядомым кірунку. Дзе ён цяпер?

Шмат не даследаванага, не вывучанага, ды і не выдадзенага і ў літаратуры Заходняй Беларусі. А творчасць, дзейнасць тых, хто апынуўся ў эміграцыі? Няўжо гэта нецікава, нікога нічаму не можа навучыць?.. Замоўчванне — не лепшы выхад са становішча...

Вялікую шкоду нашай літаратуры прынесла рэдагаванне і самарэдагаванне, так званая, унутраная і яўная цэнзура. Вярнуўшыся пасля доўгага перапынку зноў да творчай працы, У. Дубоўка, Я. Пушча ды і некаторыя іншыя часам так правілі свае творы, што яны страцілі сваю былую вастрыню, жыццёвасць і прывабнасць. Як цяпер друкаваць гэтыя творы — паводле апошніх рэдакцый ці ўсё ж першых? А, можа, у асобных выпадках змяшчаць побач і адну і другую? З практыкі працы ў рэдакцыі часопіса «Полымя» ведаю, як аўтары раманаў, аповесцяў, апавяданняў неахвотна ішлі на пэўныя праўкі. Але змушаны былі рабіць гэта, бо інакш... Наўрад ці былі б надрукаваны іх творы. Многіх аўтараў тых папраўленых, іншы раз без іхняй на тое згоды, твораў няма ўжо жывых. І пры выданні, перавыданні іх твораў, вядома ж, варта вяртацца зноў і зноў да рукапісаў. Тады чытач будзе сапраўды чытаць тое, што напісаў аўтар, а не тое, што пакінулі рэдактары. Асабліва зарэдагаваны творы аўтараў, якія пісалі востра, бескампрамісна — А. Кулакоўскага, П. Пестрака, А. Макаёнка, У. Караткевіча... Зноў жа — у іх, ды і ў некаторых іншых, пасля смерці засталіся ненадрукаваныя пакуль што творы. Навошта іх трымаць, хаваць ад народа? «Рукапісы не гараць» — добрае суцяшэнне, але на практыцы бывае ўсяк. Колькі іх ужо згарэла, ды і загінула! І да вайны, і ў вайну, ды і пасля вайны...

Знявервацца, апускаць рукі не варта — трэба шукаць яшчэ ненадрукаваных рукапісаў, шукаць твораў, што згублены, забыты, знявечаны праўкамі рэдактараў і цэнзуры. Чэсць і і хвала кожнаму, хто прычыніцца да гэтай так патрэбнай сёння высакароднай працы. Нашы папярэднікі заслугоўваюць таго, каб пра іх помнілі, каб ім памаглі дарабіць тое, чаго яны не маглі ці не паспелі зрабіць самі. Вынікі такой працы ўзбагачаюць нашу літаратуру, духоўную культуру, вяртаюць народу яго скарбы. Самы свежы прыклад такога вяртання — знойдзеныя і апублікаваныя на старонках часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» (1988 г., № 6) вершы пісьменніка-нашаніўца М. Арла (С. Пяцельскага). Удача, якая напаткала І. Саламевіча, неаднойчы радавала і іншых руплі́ўцаў на гэтай ніве — С. Александровіча, Г. Кісялёва, А. Мальдзіса, У. Калесніка, У. Казберука, Г. Каханоўскага, У. Содаля, В. Рагойшу...

Хочацца спадзявацца і верыць, што гэтай радасці пабольшае, калі будуць, нарэшце, адкрыты ўсе архівы, асабліва тыя, якія хаваюць матэрыялы працэсаў гвалту і здзеку з усіх сумленных людзей — 30—40-х ды і пазнейшых гадоў...

**ную і дыпломную ў тэатры, дзе да яго прыглядаюцца, ён у сваю чаргу знаёміцца з трупай, а ў выніку глядзіш, тэатр і рэжысёр набылі адзін аднаго? Ідэалізм. Мы — матэрыялісты! А дзе ж тут барацьба? Дзе цяжкасці, у якіх загартоўваецца характар і набываюцца першыя сімптомы інфаркта?! Калі ж «змагацца» няма з чым, то неабходна цяжкасці стварыць штучна. Яны, аказваецца, нас проста... гартуюць!**

**Крыўдна. Жыццё мне ўяўлялася іначай, у больш светлых фарбах...**

**Размеркаванне я атрымаў у Бабруйск — адзіны з групы. І калі прайшло паўгода, якія я пражыў у кабінеце загадчыка пастановачнай часткі і зведаў самаадчуванне ссыльнага... Паўгода я нідзе не прапісаны. Нідзе не стаю на воінскім уліку. Я не магу галасаваць, карыстацца паслугамі Аэрафлоту, жыць у гатэлях, карыстацца пракатам; нават на пошце мой пашпарт (без прапіскі) выклікае падазроныя позіркі... Але так хочацца быць у ліку паўнапраўных грамадзян СССР! Дамогся права на свабоднае працаўладкаванне і прадчуваю, што на аднаго рэжысёра ў рэспубліцы паменее. А вось рэжысёр Дубовік паўгода ўжо чакае размеркавання. На што ён жыве? Дзе? Сядзіць без працы і рэжысёр Марчанкава, бо месца, куды яе размеркавалі (не па спецыяльнасці!) аказалася заняты. А да ўсяго ў Марчанкавай з'явілася дзіця... Рэжысёр Шынкарэнка знайшоў прытулак у філармоніі. Сам, натуральна. Шчасліўчык! Недзе побач з любімай прафесіяй знаходзіцца — праз сценку!**

**Усё, што адбылося з нашым выпускам, — не прыватны выпадак, а сістэма ў стаўленні да сваіх рэжысёрскіх кадраў. Хтосьці скажа, што трэба змагацца, што могуць узнікаць розныя цяжкасці... Так, але не ва ўсякай барацьбе і не з усякімі цяжкасцямі можа вырасці і загартавацца талент. Часцяком гэта губіць талент у зародку. І потым высвятляецца, што даўнавата ўжо на беларускай сцэне не з'яўляліся спектаклі па-сапраўднаму цікавыя, наватарскія...**

**Ну, а пакуль наша «барацьба з цяжкасцямі» працягваецца, дазволю сабе пакарыстацца магчымасцю і абвясціць, што я, малады рэжысёр, дыплом з адзнакай (маю дыплом і аб акцёрскай адукацыі), прапаную свае паслугі дзяржаўным установам, кааператывам і прыватным асобам. Валодаю сякераю, нядрэнна ведаю цяслярскую справу, пішу п'есы, сцэнарыі святаў, фільмаў, ранішнікаў, эпітафіі і віншаванні (у вершах і ў прозе, як пажадаеце), даю кансультацыі жадаючым стаць беспрацоўнымі акцёрам і рэжысёрам, магу зняцца ў кіно, працаваць бетоншчыкам, маю вопыт работы ў афарміцельскіх брыгадах, магу паставіць спектакль, дам урокі фехтавання. Чакаю вашых прапаноў...**

**Павел ІВАНОЎ.**

---

Сцэна са спектакля «Патрабуецца трагічная актрыса».
Фота Г. НЯСМАЧНАГА.

атра-студыі на Краснай Прэсні з работамі іншых тэатраў, якія гастралявалі да таго, газета «Политика» пісала: «Калі чалавек трапляе ў акадэмічны тэатр, у тэатр з традыцыйнай структурай, з акамянелымі адносінамі, ён бачыць на сцэне тых жа людзей сярэдніх гадоў, якіх пастаянна сустракаеш у асяроддзі чыноўнікаў. Не мае значэння, дзе гэта адбываецца — у Францыі ці ў Савецкім Саюзе, — на сцэне толькі шэрыя твары з патухлым паглядам... У спектаклях, прынесеных у Бялград хваляй перабудовы, мы ўбачылі зусім іншых, незвычайных людзей, не падобных адзін на аднаго».

Таксама, як у «Чайцы», у спектаклі «Патрабуецца трагічная актрыса» (па п'есе А. Астроўскага «Лес») Ю. Паграбнічку больш за ўсё цікавіць лёс Мастака, актуальны і сёння матыў выбару паміж дабрабытам і творчасцю, платы за права тварыць, як душа загадвае.

Думаецца, Юрый Паграбнічка знайшоў свой Тэатр. Яшчэ не мінула і двух сезонаў яго работы на Краснай Прэсні, як пра яго загаварыла крытыка, заспрачаліся тэатралы. Водгукі на спектаклі Паграбнічкі самыя розныя — ад фельетоннага адмаўлення да гарачай захопленасці. За час гастроляў тэатра ў Мінску беларускі глядач мае магчымасць па-свойму ацаніць творчасць нашага калектыву.

**С. НОВІКАВА,**
**памочнік мастацкага кіраўніка па літаратурнай частцы.**

---

**розпае іх эмацыянальнае ўздзеянне. Як то мовіць тэрміналагічна: балет — мастацтва сур'ёзнае, вар'етэ — забаўляльныя танцы.**

**Гэтак жа лагічна, што і народны танец з яго неацэннай духоўнасцю і нацыянальным каларытам з вар'етэ не пераблытаеш. Аднак... народныя строі і красамоўная сімволіка адпрацаваных вякамі рухаў не перашкодзілі танцорам з МІКа ператварыць фальклорны вечар у лёгкае смешнае відовішча накшталт вар'етэ, нават з эратычнасцю, якой хапала з лішкам. Куды толькі і падзелася пяшчотная цнатлівасць дзяўчат, што перадавалася спрадвеку ад бабулі да ўнучкі?! Застаецца моўчкі змірыцца: прыкметы часу. Але не павінна быць падуладным часу вечнае нязгаснае мастацтва народа. Яно — не катэгорыя часу, а хутчэй катэгорыя гістарычная. А на праўдзівасць гісторыі замахвацца нельга. Па кожным з гэтых танцаў пазнаём пэўныя перыяды гісторыі нашай, кожнаму нязмушана, вольна вучымся. Штучна прыжывіць яго сучаснікам немагчыма, ды і не трэба. Але ж аснова, характар, лад мыслення і адчування павінны застацца.**

**Паўнютκая зала Дома літаратара — не выпадковасць, трэба думаць. На фальклорную вечарыну людзі ішлі, як да святой лекавай крыніцы. Шкада, што мала свайго, роднага, убачылі яны тут. Праўда, хораша, весела і бадзёра віхурылі «Полька задам і са свістам», «Вясковая кадрыля», «Вясновыя полькі». Шчыра скакалі знаёмыя з дзяцінства «Козачкі» ў выкананні «Унучанятак».**

**Глядзіш і дзіву даешся: дзяўчына ну чысцюткая вясковая кабета, то сварлівая, то лагодная, то пляткарка, то галубка. А бялявы кучаравы хлопец—гэткі сапраўдны разважны дзед-спакуснік. Гэта ж таленты з народа, з глыбінь нацыянальнага жыцця. І, можа, гэткіх талентаў шмат раскрылася б, калі б умелі мы шанаваць існае, непадробнае.**

**Вось і пытаюся я ўстрывожана: дзеля чаго штогод ладзіць экспедыцыі лабараторыя народнага танца пры кафедры харэаграфіі МІКа па розных рэгіёнах рэспублікі? Дзеля чаго назапашваюцца ў лабараторыі каштоўнейшыя запісы народных танцаў, складаюцца фона- і фотатэкі, закупляюцца унікальныя народныя строі?**

**Здаецца мне: для некаторых аранжыроўшчыкаў фальклор толькі зручная пляцоўка для «скокаў у вышыню».**

**Успамінаецца: вечарына завяршалася, дзяўчаты, што спявалі вельмі старадаўнюю веснавую песню «Як пушчу стралу да па ўсім сялу», сімвалічна перадалі малым дзеткам... крыж. Дзяўчо няўцямна трымала святы знак любові і ахвярнасці, не разумеючы яго сэнсу. Мабыць, і дзяўчаты-пявунні не спасціглі глыбіннай сутнасці расхінутай перад светам душы...**

**А. ХАТЭНКА.**

**Ад рэдакцыі.** Сумны роздум эксперта БФК А. Хатэнкі пра «імправізацыю» беларускага фальклору — не адзіны ў рэдакцыйнай пошце. Мастак В. Сташчанюк з Мінска, які таксама прысутнічаў на гэтым канцэрце, у прыватнасці, піша: «На сцэне гледачы ўбачылі нешта ад вар'етэ, нешта ад дыскатэкі і нешта ад пародыі на балет. Але амаль нічога ад фальклору. Такі «плюралізм» пры карыстанні фальклорнай асновай у харэаграфічных пастаноўках успрымаецца, мякка кажучы, як непавага да той спадчыны, што вякамі ствараў наш народ і ў якой з найвялікшай выразнасцю акрэслены яго нацыянальны характар, эстэтычны светапогляд і культура».

Дык, пэўна, ёсць падставы прафесійным фальклarystам рэспублікі звярнуць самую пільную ўвагу на неабходнасць беражлівых адносін да духоўнай спадчыны народа?

---

Калі народны артыст РСФСР Эдуард Пелагейчанка прыехаў працаваць у Мінск (а было гэта чатыры гады таму) і выканаў некалькі партый у оперных спектаклях, загаварылі, што ў рэспубліцы з'явіўся выдатны **оперны** спявак. Але я ўпершыню пачула артыста менавіта ў камерным жанры, а не ў оперы. Тады з канцэртмайстрам Ларысай Максімавай ён падрыхтаваў вакальны цыкл Л. Абеліёвіча на вершы англійскіх паэтаў. Цыкл, якога кампазітар ужо не пачуў. Выкананне гэтага твора — пранікнёнае, мудрае і журботнае, памятаю, уразіла да глыбіні душы. Уразіла тонкасцю інтэрпрэтацыі, шчырасцю пачуццяў, непадробленай інтэлігентнасцю.

канцэрта (дарэчы, ён выконвае ўсе 103 рамансы кампазітара!). І ўсё ж...

**Э. ПЕЛАГЕЙЧАНКА. Пасля заканчэння Новасібірскай кансерваторыі я праслухоўваўся ў пяць оперных тэатраў і прайшоў ва ўсе пяць, але выбраў Пермскі — цудоўны ў сэнсе наведвальнасці, тэатр па-сапраўднаму акадэмічны ў сэнсе існавання ШКОЛЫ, з цудоўнымі традыцыямі ленінградскага Кіраўскага тэатра, які ў час вайны быў эвакуіраваны ў Перм. Пермскі тэатр называлі «Домам Чайкоўскага». Тут ставіліся ў той час усе оперы і балеты Пятра Ільіча. Я выканаў вядучыя партыі ў операх Чайкоўскага, «Чарадзейка», «Іяланта», «Мазепа», «Яўгеній Анегін». Тады ж задумаў выканаць усе рамансы Чайкоўскага. Да таго ж, выкананне рамансаў Чайкоўскага Сяргеем Якаўлевічам Лемешавым мела на мяне непазбыўны ўплыў. Наогул, я спяваць пачаў дзякуючы таму, што быў такі спявак, як Лемешаў.**

кага адзінства ў той вечар былі выразныя фартэпіянныя ўступы і пастлюдыі, інтэрмедыі і агульны фон акампанементу. Наогул, калі за раялем Л. Максімава, заўсёды можна чакаць мастацкага ўзроўню **ансамбля**. У гэтага канцэртмайстра найкаштоўная здольнасць — зразумець **сутнасць мастацкай індывідуальнасці** спевака.

**Л. МАКСІМАВА. Выступленне мастака на сцэне, канчатковы варыянт працы ўжо на эстрадзе ў нейкім сэнсе непрадказальны. Пэўна, так і павінна быць, бо творчасць — гэта рух, а рух — гэта пастаянныя змены. Хаця для канцэртмайстра тут ёсць пэўныя цяжкасці: скажам, у тым месцы, дзе на рэпетыцыях было «піяна», на сцэне ў саліста раптам «фортэ». Але гэта цудоўна, калі пошук працягваецца ўвесь час і нават на сцэне, бо шмат чаго залежыць жа і ад эмацыянальнага стану спевака. І дзе ён, той апошні варыянт, невядома ні мне, ні салісту. Таму нават адна і тая ж праграма штораз гучыць па-новаму.**

*Музыка*

# ВЫКАНАЦЬ УСЕ СТО ТРЫ...

**Штрыхі да творчага партрэта спевака Э. ПЕЛАГЕЙЧАНКІ**

І вось — нядаўні сольны вечар спевака ў камернай зале на Залатой Горцы. У праграме толькі П. Чайкоўскі.

Не ведаю, што больш цяжка і адказна — выконваць твор, які гучыць рэдка, зусім новы твор, толькі што напісаны кампазітарам, ці, наадварот, папулярны, які ўжо з сотню і болей разоў быў праспяваны вялікімі, выдатнымі, проста добрымі спевакамі, твор, які мае ўжо ў аматараў музыкі любімыя інтэрпрэтацыі? Часам здаецца, у гэтым, другім выпадку цяжэй. Бо трэба ж знайсці нешта **сваё**, індывідуальнае, каб праз даўно знаёмую музыку выказаць **сваю**, уласцівую кожнаму асобнаму чалавеку (проста чалавеку, не кажучы ўжо аб мастаку) **унікальнасць** — толькі тады шырокавядомая музыка прагучыць непаўторна. І адразу скажу: Э. Пелагейчанка не падмануў надзеі слухачоў.

Некаторыя рамансы прагучалі не зусім звыкла. Напрыклад, «На землю сумрак пал» у больш рухавым тэмпе, чым прынята,— але гэта толькі адцяніла, зрабіла больш кантрастным і эфектным стрыманы тэмп кульмінацыі і пастлюдыю (нібыта глыбокае шкадаванне аб страчаных надзеях). У рамансе «Я вам не нравлюсь» аўтарскія «фортэ» дзе-нідзе заменены спеваком на «піяна» — і гэта пераканаўча, бо падкрэслівае падаўленасць, ціхі адчай і безнадзейнасць.

Цяжкасць увасаблення музыкі Чайкоўскага ў тым, што яна вымагае глыбока псіхалагічнай напоўненасці выканання, вымагае і адпаведных якасцяў голасу: шчыльнасці і роўнасці гучання, вялікага дыяпазону, бездакорнай чысціні інтанацыі, майстэрскага валодання тэхнікай. Усім гэтым спявак валодае дасканала. Таму гэтак непаўторна прагучалі вельмі цяжкі, з агромністым дыяпазонам і мноствам нюансаў раманс «Смотри, вон облако...», і другі — «Усни, печальный друг...», дзе патрабуецца неверагодна доўгае дыханне на велізарных фразах дынамічных узыходжанняў.

Рамансавая лірыка Чайкоўскага любімая і слухачамі, і выканаўцамі. (Дарэчы, і А. Чэхаў прызнаваўся, што «дзень і ноч стаяў бы ганаровай вартай ля ганка таго дома, дзе жыве Чайкоўскі»). І, здавалася б, няма патрэбы пытацца, чаму менавіта толькі Чайкоўскага абраў Э. Пелагейчанка для свайго

**Урэшце, як бывае ў жыцці: з пяці мільярдаў людзей на зямлі двое спаткаюць адно аднаго і ўжо адзін без другога не могуць і прысвячаюць адно аднаму жыццё. Так і ў мяне з музыкай Чайкоўскага: сустрэў і прысвяціў ёй жыццё.**

Э. Пелагейчанка нарадзіўся ў Луганску; у Алтайскім політэхнічным інстытуце набыў спецыяльнасць інжынера-механіка ліцейнай вытворчасці; пасля працаваў у Хабараўску на ліцейным заводзе, і... у сярэдзіне года (уразіўшы настаўнікаў тым, што на праслухоўванні праспяваў арыю Вертэра Ж. Маснэ) паступіў у Хабараўскае вучылішча мастацтваў. Праз месяц вылучыўся на конкурсе далёкаўсходніх музвучылішчаў і вырашыў паступаць у Новасібірскую кансерваторыю. Але трэба было, каб яго адпусцілі з завода. «І тады я, — успамінае Э. Пелагейчанка, — напісаў ліст міністру ліцейнай прамысловасці, дзе растлумачыў, што я больш спявак, чым інжынер. Праз які час атрымаў ад яго дазвол і паехаў у Новасібірскую кансерваторыю».

...Меў рацыю Д. Шастаковіч, калі казаў, што агульным і ў Чайкоўскага, і ў Чэхава было **адчуванне трагічнага.** Пра гэта ўспомнілася, калі гучаў раманс «Ноч» на вершы Д. Ратгаўза — трагічная сцэна-ўспамін пра былое; а колькі роспачы, болю ўклаў спявак у апошняе «...боже мой!» з раманса «Забыть так скоро...» на вершы А. Апухціна! І ўсё гэта без афектацыі, без надрыву, а мужна, стрымана — што толькі падкрэсліла глыбіню перажыванняў. Нельга не сказаць пра трапяткія адносіны артыста да тэксту, да паэтычнага слова ў рамансе.

Тонкае драматычнае чуццё артыста дапамагае яму ператварыць амаль кожны раманс у маленькую навелу. Можа, тут уплывае і практыка操 опернай сцэны?

**Э. ПЕЛАГЕЙЧАНКА. Безумоўна, сцэнічны вопыт застаецца пры табе заўсёды, тым больш калі гэта праца на сцэне Вялікага тэатра СССР, амаль 10 гадоў, хай і эпізадычная, дзе мне давялося працаваць. А калі гаварыць пра інтэрпрэтацыю музыкі Чайкоўскага, я не бачу праблем, мо таму, што гэтая музыка супадае з маімі пачуццямі...**

Мне ўжо даводзілася пісаць пра тую вялікую ролю, якую адыгрывае канцэртмайстар у складанасці дасканалага і арганічнага дуэта са спеваком, пра неабходнасць адзінства **музыканцкіх пазіцый** спевака і піяніста. Сведчаннем музыканц-

**Першае наша з Э. Пелагейчанкам выступленне ў камерным канцэрце — цыкл Л. Абеліёвіча. Кампазітар ужо быў смяротна хворы, абмяркоўваць інтэрпрэтацыю твора з ім было немагчыма, спявак жа датуль ніколі не выконваў беларускую музыку (ён тады толькі прыехаў у Мінск). І ў мяне былі сумненні, але Эдуард Іванавіч узяў твор, і адносіны да гэтага апошняга твора аўтара ў яго былі самыя трапяткія. Потым кожнаму выкананню цыкла Абеліёвіча на вершы англійскіх паэтаў спадарожнічаў поспех. І цяпер Э. Пелагейчанка многа працуе ў беларускай музыцы, вельмі сур'ёзна ставіцца да вымаўлення беларускіх слоў у вакальнай музыцы, ён узнавіў нашу рамансавую спадчыну, сёння ў яго рэпертуары творы Р. Пукста, А. Багатырова, Ю. Семянякі, Г. Вагнера.**

**Прываблівае яго творчы падыход да твора — ён не проста бачыць ШТО напісана ў нотах, ён заўсёды імкнецца АДЧУЦЬ ЯК, ДЗЕЛЯ ЧАГО ГЭТА НАПІСАНА, таму і вынік такі цудоўны.**

Майстэрства, прафесіяналізм — гэта той падмурак, на які абапіраецца чароўны будынак мастацтва. Пераканаў у гэтым і сольны канцэрт Э. Пелагейчанкі. На жаль, межы газетнай публікацыі не дазваляюць пагаварыць яшчэ і пра оперную дзейнасць артыста, занятага амаль ва ўсіх вядучых партыях рэпертуару ДАВТа БССР. Хацелася б расказаць і пра ягоную педагагічную працу — я была сведкай найруплівай «чорнай» працы са студэнтамі ў яго класе ў БДК, працай над кожнай нотай, кожным гукам, кожным уздыхам... І тым больш уражвае, што, нягледзячы на такую занятасць, ён знаходзіць час для камерных вечароў, для такой **непрэстыжнай** у нашай рэспубліцы, але такой чароўнай камернай музыкі.

Эдуард Пелагейчанка падараваў нам магчымасць яшчэ раз і па-новаму пачуць добра знаёмую музыку — праз яго артыстычную абаяльнасць і майстэрства. Радуешся прадчуванню новых сустрэч з ім у чароўнай плыні рамансавай лірыкі Чайкоўскага: бо самае гарачае жаданне артыста — выканаць усе 103 (!) рамансы кампазітара, да 150-годдзя з дня яго нараджэння. Я жадаю, каб у ажыццяўленні гэтага намеру ў спевака не было перашкод.

**Галіна ГАРЭЛАВА,**
**кампазітар, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.**

## Паэзія

Мар'ян ДУКСА



# З НОВЫХ ВЕРШАЎ

●

За тое, што з жыцця смяёмся, як на ўроку,
жыццю — і не малы! — мы плацім свой аброк.
І сёння дзе-нідзе зрабілі мы паўкроку,
замест таго, каб нам зрабіць вялікі крок.

Здаецца, для хады расчысцілі дарожку,
і дыхае у твар задзірысты свяжак.
Няўжо гэта ўсур'ёз — разлічваць на падножку?
І хто там за спіной трымае за пінжак?

Няхай сабе бальшак пакуль яшчэ не гладкі,
цвярдзейшы чым калі, што на зубах, арэх.
Павінны крок зрабіць мы сёння без аглядкі,
каб заўтра перайсці на марафонскі бег.

### Рамантыка

У вочы душ як дыхала вясна!
І як было ўсім хмельна без гарэлкі.
Гарэла сонцам слова «Цаліна».
Туды, на ўсход, усе глядзелі стрэлкі.
І недзе ж там займалася зара,
прызыўна так над лесам палыхала —
як «МАЗ», грымела слова «Ангара»
і неспакой у думках калыхала.
І праз заслону самых тоўстых брам
ляцела рэха, і была ў ім сіла —
чыгуннаю даўбешкай слова «БАМ»
у самы асяродак сэрца біла!
Ды штосць пшаніцу возім з-за мяжы —
ні хлебадайнай цаліны, ні пашы.
І пад вадой ангарскаю ляжыць
зямля-тапелец, спадчыніца наша.
Хоць я сабе і раю: не скуголь —
Байкал яшчэ не так закруціць колы!
А ўсё-ткі «БАМ» — наш козырны кароль,—
хоць і кароль, але — глядзіце — голы!
Сплывае чад ад колішніх прамоў
пад подыхам цяперашніх палемік...
Ды як вяскоўцаў чысценька падмёў
казённай мроі лапушысты венік.

●

Ні ў кога не пытаючыся згоды,
вы кожнага ў палон саджалі змалі —
былыя тэарэтыкі свабоды,
вы колькі клетак ёй намайстравалі?
Узорна-пекных, дзіўна-адмысловых,
складзі ў рады — расцягнуцца на мілі.
Прытым якім усхваляваным словам
вы тыя клеткі ўсе благаславілі.
Пры гэтым думка вашая нярэдка
даволі дзіўны брала накірунак:
зацверджаная форменная клетка —
о не загон — сапраўдны паратунак!
Ах, фарысеі, прытварацца што там,
вы не свабодзе — вы служылі страху.
Як па-майстэрску вы бліскучым дротам
размахі крыл пераціналі птаху.
Свабода — не прыгода і не мода,
яна — і рух, і росквіт, і збавенне.
Мы ведаем і самі, што свабода
не проста так — на прывязі сумлення!

●

Хоць ты і мацнейшы, а бліжніх не бі,
як снегам, развагай засып утрапенне.
І самае лепшае — гэта зрабі
рахунак сумлення.

Калі напісаў хоць адзіны данос,
і сёння не спіцца — не знойдзеш збавення,
то ведай, мярзотнік, асвеціць твой лёс
рахунак сумлення.

Ты іншых вучы сабе, многа вучы.
і трохі ўшчувай, хоць усё пакаленне,
калі і самому табе па плячы
рахунак сумлення.

На крэсла высокае смоллю не лезь,
бяжы ад кароны, хоць будзе здзіўленне,
пакуль ты яшчэ не засвоіў увесь
рахунак сумлення.

### Надзённыя пытанні

Напомнім былому суроваму часу,
хоць, можа, яму і не ўсмак напаміны,
як ён наш народ палавініў на класы —
амаль што на роўныя дзве палавіны.

Адна з іх, па моцным жаданні ягоным,
павінна далей рэвалюцыю рухаць,
іначай гаворачы, быць гегемонам,
другая—ў хвасце валачыцца і слухаць...

І потым яшчэ паўтаралася часта,
як быццам між іншым, хоць цвёрда і бойка,
што ёсць яшчэ, ёсць яшчэ тонкая частка,
яна нібы збоку прыпёку — праслойка...

Куды ж нам аднесці людзей з апаратаў
з іх вельмі цяжкой тэлефоннаю працай?
Чаму шматмільённы наш клас бюракратаў
шчасліва вучоных пазбег рэгістрацый?

Нясём мы капейку ў дзяржаўную касу,
відаць, не малую. А мы — як той лёкай.
Як доўга яшчэ нам, вялікаму класу,
лічыцца і быць бутэрброднай праслойкай?

### Эмігранты

Запырсканы, з пены марской небакрай...
Расія... Ды сёлета — гэта не летась...
Прасвечаны сонцам усіхнім адчай
падхопліваў, як севастопальскі ветразь.

І лашчыўся вецер з-пад ялцінскіх скал,
шаптаў развітальна пра шчасце і волю...
Мяцежнага полымя ўздыблены вал
ужо набліжаўся з палыннага поля.

Паклікала чайка марская здаля,
на мове сваёй колькі раз пракрычала.
І толькі свая за спіною зямля —
любімая, мілая — ўсё ж прамаўчала.

На беразе стала крыўдней удвая.
Свінцовай тугой налівалася цела.
Хай бура, ды бура айчынна-свая,
а вось зразумець іх яна не хацела.

Як цяжка ўспамін валачыць за мяжу
пра страчаны край, які стаў нелюдзімы...
Пакутлівы выбар: ці страціць душу,
ці страціць жывую душу — ці Радзіму...

●

А год сорак сёмы. Ужо на зыходзе зіма.
Твар бледны ў мяне — як выразны адбітак галечы.
Апошнія бульбіны радасна варацца ў печы.
Што з'есці? Нікому да гэтага справы няма.
З пакутамі шклянку ўздымаю — хаця б не праліць...
І вочы адводзіць вялікая наша краіна —
залізвае раны, свае разграбае руіны,
а месца ніяк не знаходзіцца, дзе не баліць.
Пазвоньваюць кельмы, сібірская свішча піла,
пад колам дарогі разбітыя вохкаюць гразка.
Жыве ў элеватары вецер. Дзяржаўная ласка
на хутар маленькі пакуль што яшчэ не дайшла.
Апошняя бульбіна меншыцца ў лёгкай руцэ,
і шклянку з пакутамі прыйдзецца выпіць да донца.
Праз космас і шыбу прарваўшыся, чуйнае сонца
пяшчотна пагладжвае мяккім цяплом па шчацэ.

# Між былым і наступным

(Пачатак на стар. 5).

□

РЭАЛЬНАСЦЬ нашых дзён: многія-многія адукаваныя, дыпламаваныя дзеці па сваім духоўным развіцці і маральным узроўні стаяць ніжэй за сваіх малапісьменных ці нават зусім непісьменных продкаў. Яны не ведаюць і не вызнаюць таго, што ведалі і вызнавалі іх дзяды-прадзеды ў адносінах да прыроды, да людзей, да працы і іншых чалавечых абавязкаў. Сытыя, багата апранутыя, задаволеныя жыццём гаспадары ўласных дач і лімузінаў, яны нярэдка сапраўдныя духоўныя старцы, пазбаўлення ўяўлення пра такія рэчы, як чалавечы гонар, сумленнасць, інтэлігентнасць. Гэтая іх маральная дэградацыя зайшла небяспечна далёка. Маю на ўвазе, што менавіта за іх лік разрастаюцца ў нас мафіі — пастаянны кодлы арганізаванага злачынства.

□

**У РАЗМОВАХ на маральна-выхаваўчыя тэмы ў нашай сацыялогіі, у мастацкай літаратуры, у журналістыцы даўно пануе не даследча-аналітычны, а нейкі фразёрска-рытарычны, зусім не плённы стыль. У лепшым выпадку мы інфармуем і апісваем, але не вывучаем, не даследуем, не аналізуем. У прыватнасці, мы па-сапраўднаму не даследуем сацыяльныя, маральныя і псіхалагічныя аспекты такіх праблем, як алкагалізм, наркаманія, палавая разбэшчанасць, як падлеткавая жорсткасць і хуліганства, як сацыяльная бездаказнасць, апушчэнства і дармаедства, як бездухоўнасць, пошласць, цынізм. Каб не на словах, а на справе змагацца з усімі гэтымі негатыўнымі з'явамі, трэба перш за ўсё ведаць іх прычыны, ускрыць вытокі, паказаць — чаму і адкуль што бярэцца. Думаю, што гэта страх гаварыць праўду прывучыў нас слізгаць па паверхні. Усё той жа праклятты страх!..**

**Напрыклад, ужо ні для каго не сакрэт, што і ў нас у Беларусі, перш за ўсё — у Мінску, ёсць нямала дэкласіраваных людцоў, алкаголікаў, дармаедаў, прастытутак, ёсць кватэры, абернутыя ў прытоны, — ёсць тое, чаго не было трыццаць-сорак гадоў назад, нават у цяжкія пасляваенныя гады. А ці ёсць пра гэта мастацкія творы — аповесці, раманы, п'есы? Усё помнім, што трэба паказваць станоўчага героя — «рабіць жыццё з каго». Трэба, вядома! Хто ж супроць такога вобраза ў літаратуры! Але парадокс у тым, што калі мы не будзем паказваць усю праўду жыцця і не будзем — праз паказ у літаратуры, у тэатры, у кіно — выхоўваць нянавісць да зла, да брыдоты, — то станоўчых герояў не прыбавіцца. У жыцці, маю на ўвазе, у жыцці!**

□

ПАПРАКАЮЦЬ у настальгіі па старым-даўнейшым, па тым, што, маўляў, адышло і рэанімацыі не падлягае... Давайце ўдакладнім: па старым-даўнейшым — ці па вечным? Па тым, што не можа аджыць ніколі, а толькі можа быць часова занядбана і спахаблена? Можа быць, гэта настальгія па такіх вечных маральных каштоўнасцях, як сумленнасць, як шчырасць, як спагадлівасць, або такіх, як вернасць запаветам продкаў, як любоў да бацькоўскага кутка, да роднай мовы і роднай песні? Дык прывітаем такую настальгію! Бо яна ёсць форма пратэсту супроць недаацэнкі і занядбання найвялікшых маральных вартасцей чалавецтва, форма непрымання шкодных для сацыялізму і яго культуры дэфармацый. Не радавацца ж нам, свядомым грамадзянам Бацькаўшчыны, таму, што гэтыя дэфармацыі маюць месца. Ці мы ўжо да такой ступені страцілі крытэрыі разумнасці і гуманнасці, што не адрозніваем, дзе пустое, бясплённае, хваравітае шкадаванне натуральна адмёрлага, а дзе шчыры чалавечы боль і пратэст супроць ненатуральнага гвалту над жывым, здаровым і прыгожым?

□

**АДКУЛЬ ПАЙШЛІ і чаму набылі ў нас такія маштабы бяспечнасць, бестурботнасць, і безадказнасць? На жаль, я не ведаю ў нашай літаратуры твораў, якія б пераканаўчым аналізам пэўных сацыяльна-грамадскіх умоў далі на гэта пытанне выразны адказ. А між тым, з'явы гэта страшна небяспечныя. Пацвярджэннем — не толькі трагедыя чарнобыльская, і не толькі занадта частыя катастрофы на моры ды на чыгунцы. Хіба менш трывожная інфармацыя пра «жалезны вецер» у Запарожжы, пра гібель Арала, пра засаленне Случчыны і пясчаныя буры на Палессі? Ці, можа, менш жахлівая статыстыка пра дынаміку разводаў і рост дамоў прытулкаў для кінутых бацькамі дзяцей, пра колькасць школ для дэбілаў?**

**Як вырастае чалавек з паталагічнай бестурботнасцю і безадказнасцю перад грамадствам, з дзікай непавагай да іншых людзей? Калі гэта ў ім пачынаецца і чым стымулюецца? Усведамленнем беспакаранасці? Адчуваннем, што жыве ў атмасферы ўсеагульнай усёдаравальнасці? Вось над чым усім нам думаць, і думаць, і думаць!**

□

ПОШЛАСЦЬ пачала пранікаць і на сцэну тэатра — нават акадэмічнага, чаго раней і ў думках уявіць нельга было. Пераломам гэты адбыўся дзесьці ў канцы 60-х. Помню, глядзелі з сынам-падлеткам адзін спектакль, і нечакана на сцэне, пад выглядам народнага сакавітага гумару, пайшла брыдота, амаль нецэнзурная. Дзве інтэлігентныя бабулі, старыя мінскія тэатралкі, з абурэннем прашаптаўшы «дакаціліся!», дэманстратыўна падняліся і пайшлі з залы. Я зрабіў наіўную спробу адцягнуць на нейкую хвіліну ўвагу 13-гадовага сына ад сцэны. Я перажыў пачуццё няёмкасці і сораму за наша мастацтва, за драматургію. Адкуль гэта ў нас пайшло — імкненне падаць у кіно і на сцэне «клубнічку»? Ад безгустоўнасці і мастацкай беспаможнасці. Так бы мовіць, лёгкі спосаб заваяваць масавага гледача. Каб вялікія, высакародныя ідэі паказаць цікава, захапляльна, ярка, — так, каб глядзелася і дух займала, — для гэтага патрэбен талент, дый з вялікай літары. А можна ж дасягнуць «поспеху» прасцей: паказаць аголеным вузкаінтымнае, тое, чаго раней ніколі не было ў нашым айчынным мастацтве, на сцэне тэатра і на экране кіно. Так, як і ў жыцці: тое, што паміж дваімі — не для ўсіх вачэй... Наватары-абнаўленцы нашага візуальнага мастацтва ведаюць, як гэта сфера чалавечых узаемаадносін хвалюе моладзь, і адкрыта спекулююць на цікавасці юнакоў і дзяўчат да свету інтымнага. Так абуджаецца ў маладым чалавеку не духоўнае, а вульгарна-плоцкае. «Мастацтва» (бяру гэта слова ў двукоссе) памагае разбэшчваць народ. Сапраўды, «дакаціліся» — скажам услед за тымі інтэлігентнымі бабулямі-тэатралкамі. Калі гэта было і што ж гэта за твор мастацтва — кінафільм або тэлеспектакль, — што яго няёмка, сорамна глядзець разам з маладым пакаленнем, са сваімі дзецьмі? Ды і самому даросламу няёмка робіцца — як быццам за табой праз замочную шчыліну падглядваюць. Цынікі скажуць: гэту няёмкасць трэба пераадолець, гэта не павінна быць саромным. Не! — і тысячу разоў — не! Сярод людзей гэта павінна быць саромным. Павінна! Калі мы не хочам, каб чалавек не адрозніваўся ад скаціны.

Трэба, каб сваё слова сказаў народ. Пакуль што ён занадта даверыўся — і ў гэтай галіне, у мастацтве — начальству. Яно, маўляў, ведае, што робіць. Хаця сам ён ніколі не культываваў пошласці і ў несмяротным фальклоры сцвердзіў высакародную цнатлівасць сваёй маралі і вышыню свайго мастацкага густу.

□

**КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ, як і ў чым змяніўся за апошнія семдзесят гадоў працоўны беларус, паглядзіце на галерэю яго вобразаў, створаную Коласам, Гарэцкім, Чорным, Лыньковым, Галавачом, а пазней папоўненую Мележам, Брылём, Чарнышэвічам, Лупсяковым. паглядзіце на псіхалогію, паводзіны, учынкі, унутраны свет гэтых герояў, а пасля — параўнайце з тым, што мы бачым сёння — з духоўна-маральным воблікам сучаснага беларуса-селяніна. беларуса-рабочага, беларуса-інтэлігента... Убачыце не толькі вынікі развіцця за такі значны адрэзак гістарычнага часу, але і наследкі ўсіх неймаверных цяжкасцей і перашкод, што давялося напаткаць у дарозе, усіх паваротаў, зігзагаў і нават зрываў, без якіх не абышлося на гэтым цярністым шляху ў нязведанае. Убачыце адбыткі цаны, якую прыйшлося заплаціць за права ісці наперадзе. І напэўна вам не захочацца гісторыю і яе творцу ацэньваць адназначна і катэгарычна.**

□

ЦІ ДАСТАТКОВА задумваемся мы аб тым, што робіць з чалавекам пяцісот- і нават тысячакватэрны дом—гэты агідны мурашнік? Ці можа чалавек у такім мурашніку пачувацца адметнай ад іншых асобай, захоўваць сваё духоўнае аблічча? Ці лёгка ў такіх умовах з дзяцінства фарміравацца асобай — у доме на тысячу аднолькавых клетак, дзе ўсё знівеліравана і ўніфікавана, дзе маленькі чалавек да пэўнага ўзросту не можа пазнаць і знайсці ні свой пад'езд, ні сваю кватэру? А калі яшчэ ўлічыць што і суседнія дамы — і справа, і злева — гэтакія ж? І што ўвесь мікрараён з такіх інкубатараў-мурашнікаў?

У XIX стагоддзі ў Злучаных Штатах жыў паэт і філосаф Ральф Уолдо Эмерсон, які шмат думаў пра выхаванне чалавечай асобы. І напісаў такое: «Сапраўдны паказчык цывілізацыі — не ўзровень багацця і не велічыня гарадоў, не вялізны плён ураджаю, а воблік чалавека, які выхоўваецца краінай».

У даваенным Мінску не было і двух зусім аднолькавых па архітэктуры дамоў. Нават і двух — на ўвесь горад! А тады будавацца было непараўнана цяжэй.

(Заканчэнне будзе).

# Хто ж не хоча дыялога?

(Пачатак на стар. 3).

**Уся яна, аказваецца, зводзіцца да таго, што гэтую сімволіку выкарыстоўвалі беларускія буржуазныя нацыяналісты. Даруйце, але ж гэта логіка зваротных тэарэм. Хацелася б спытацца ў А. Малашкі: ну а як быць са штанамі — штаны можна насіць пралетарскаму інтэрнацыяналісту? Мне ж дакладна вядома, што беларускія буржуазныя нацыяналісты насілі менавіта штаны, а не шатландскія спаднічкі. Так можна спрачацца да хрыпаты і ні да чаго не дамовіцца: адны будуць спасылацца на беларускіх буржуазных нацыяналістаў, другія — на Грунвальдскую бітву.**

Ці возьмем тэзіс А. Малашкі аб тым, што беларуская творчая інтэлігенцыя «спрабуе сфарміраваць свядомасць народа, якая ўтрымлівае зарад нацыянальнага недаверу, падазронасці, крыўд і незадаволенасці развіццём беларусаў у садружнасці брацкіх народаў». Але хіба гэта турбуе пісьменнікаў Беларусі? Хіба справа ў русафобіі, аб чым, дарэчы, балбочуць і члены праславутай «Памяці», што пераблыталі гістарычную памяць і нацыянальную самасвядомасць рускага народа з гульнёй свайго хворага ўяўлення? Гаворка ідзе пра іншае, пра дыктат ведамстваў, якія звілі свае гнёзды ў Маскве. А каму ж невядома, што ведамствы «інтэрнацыянальныя», г. зн. аднолькава разбойнічаюць як на тэрыторыі Расіі, так і ў другіх саюзных рэспубліках? І хіба не відавочна, што менавіта ведамаснай бюракратыі вельмі хочацца пафарбаваць гэтую праблему ў нацыянальныя адценні, прадставіць як праявы «месніцтва» і «нацыяналізму»?

Дае аб сабе знаць адна тэндэнцыя, якая заслугоўвае, мне здаецца, самай пільнай увагі. Любое нефармальнае аб'яднанне, калі толькі яно ўключае ў сваю праграму палітычныя патрабаванні, нават тыя, што знаходзяцца ў поўнай згодзе з рашэннямі XIX партыйнай канферэнцыі і накіраваны на іх рэалізацыю, тут жа залічваюцца па ведамстве нацыяналістычных. І не толькі ў нас у рэспубліцы. У той жа час «Памяць», мяркуючы па друку, адчувае сябе досыць вольна і ў Маскве, і ў Ленінградзе. Што гэта —дзве арыфметыкі, адна— для рускага нацыяналізму, другая — для ўсякага іншага? Ці, можа, мясцовыя ўлады ў нацыянальных рэспубліках па-пралетарску інтэрнацыянальныя, а ў Маскве і Ленінградзе заражаны вірусам рускага нацыяналізму? Смешна, вядома ж, не. Проста сёй-той гатовы пагрэць рукі на нацыянальным пытанні, выкарыстаць яго з мэтаю блакіравання перабудовы. Вось чаму «Памяць», якая выказала такую кранальную зацікаўленасць лёсам іска І. Шахаўцова да А. Адамовіча, зусім прымальная для рускай бюракратыі. А, скажам, «Мартыралог», створаны ў нас па ініцыятыве творчай інтэлігенцыі, блізкі да алергічнага. Не, бюракратыя па праўдзе інтэрнацыянальная. У сваім, зразумела, чыста бюракратычным сэнсе.

А. Малашка шкадуе, што ў барацьбе з «дэмагогамі» і «крыкунамі» не на вышыні грамадазнаўцы рэспублікі. Прычыну гэтага ён бачыць у тым, што сярод іх «аказалася нямала асоб, узрошчаных на праслаўленні застою, «развітога сацыялізму», людзей, якія аказаліся непадрыхтаванымі ні тэарэтычна, ні маральна супрацьстаяць у сродках масавай інфармацыі суб'ектывізму і групаўшчыне». Не ведаю, але веру А. Малашку, ён, напэўна, добра ведае сваіх сабратоў па пяру. Толькі дарэмна А. Малашка робіць «неабгрунтаваныя абагульненні і ацэнкі». Асабіста я, напрыклад, гатовы і сёння падпісацца пад кожным радком, напісаным калі-небудзь за трыццаць гадоў навуковай дзейнасці. І прычына маёй «отстраненности» носіць іншы характар. У мяне склалася ўяўленне, што мы проста не хочам сур'ёзнай гаворкі з нашымі нефармальнымі аб'яднаннямі, такога дыялога, які даў бы магчымасць аддзяліць тое каштоўнае, рацыянальнае, што ёсць у іхніх праграмах, ад таго, што з'яўляецца пустазеллем. І дарэмна думае А. Малашка, што грамадазнаўчыя сілы не былі своечасова «мабілізаваны». Яны былі мабілізаваны, але мабілізаваны ў лепшых традыцыях часу застою і не толькі аднаго застою: не для таго, каб весці канструктыўны дыялог, а для таго, каб «абясшкодзіць», як прыгожа выказваецца аўтар (ці не праўда, тэрміналогія да слёз, да болю знаёмая), «дэмагогаў» і «крыкуноў».

**І калі ж мы, нарэшце, пазбавімся ад звычкі глядзець на нашу грамадскую навуку як на «прыслугу» палітыкі, а на вучоных-грамадазнаўцаў як на людзей, закліканых праводзіць «лінію», келейна распрацоўваемую апаратнымі работнікамі ў цішыні сваіх кабінетаў? Так, мы, грамадазнаўцы, былі і застаёмся байцамі партыі. Але мы тэарэтыкі-марксісты, а не прыдадак партыйнага апарату, тая частка нашай партыі, з якой няблага было б і параіцца, перш чым прымаць тое ці іншае рашэнне. Менавіта на такую сувязь партыйных камітэтаў з навуковай грамадскасцю арыентуюць рашэнні XXVII з'езда КПСС, якія аднолькава абавязковыя як для грамадазнаўцаў, так і для партыйных камітэтаў. І я ўпэўнены, што калі б тыя, хто ў адказе за ідэалагічную работу ў горадзе і рэспубліцы, прыцягнулі вучоных-грамадазнаўцаў у гэтай іх якасці, А. Малашка, хутчэй за ўсё, не меў бы прычыны пісаць свой артыкул.**

У прамове на XXIV Мінскай абласной партыйнай канферэнцыі, закранаючы праблемы нефармалаў, Я. Я. Сакалоў гаварыў: «Галоўнае — платформа, на якой стаіць аб'яднанне. Ці адпавядае яна духу, рашэнням XXVII з'езда КПСС і XIX Усесаюзнай канферэнцыі?» Я цалкам падзяляю гэтую пазіцыю. І не толькі таму, што мяне вымушае да гэтага партыйная дысцыпліна, але і таму, і нават галоўным чынам таму, што глыбока перакананы: альтэрнатывы перабудове няма. Але я далёка не ўпэўнены (больш таго, перакананы ў адваротным), што няма сіл, якія хочуць і могуць стаць на яе шляху. Штосьці падобнае ўжо здаралася — успомнім нядаўнюю нашу гісторыю. І было б найглыбейшай трагедыяй для партыі і народа двойчы вучыцца на адных і тых жа памылках. Вось чаму так важна сёння кансалідавацца ўсім здаровым сілам грамадства, каб перабудова стала па-сапраўднаму незабарачальнай. Але менавіта таму матэрыялы, накшталт артыкула А. Малашкі, выклікаюць у мяне рашучае непрыманне. Нельга, выкрываючы адных у манаполіі на ісціну, прызнаваць гэтую манаполію для сябе. Нельга, абвінавачваючы іншых у дэфіцыце культуры, тэндэнцыйнасці, групаўшчыне і дэмагогіі, насаджаць тую ж самую тэндэнцыйнасць, сектанцкую нецярпімасць, бескультур'е і дэмагогію.

Дарэчы, аб дэмагогіі (і на гэтым я скончу сваю гаворку з А. Малашкам). Гэта адзін з улюбёных жупелаў бюракратыі. Размахвае ім і А. Малашка, разважаючы на тую тэму, што эксперты аргкамітэта БНФ «пракламуюць з выглядам першаадкрывальнікаў многае з таго, што абвясціла і праводзіць КПБ», што «ўзрошчаныя ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі куміры» і нефармальныя аб'яднанні «паразітуюць выключна на памылках і недастатковай гнуткасці мясцовых улад».

**Гэта ці дэмагогія, у якой А. Малашка спрабуе абвінаваціць іншых, ці неразуменне сутнасці справы. А дазвольце спытацца, як уяўляе сабе А. Малашка не «дэмагагічны», а рэальны палітычны ўдзел той жа навуковай і творчай інтэлігенцыі ў справах перабудовы?** Распрацаваць праграму, не падобную на праграму КПСС? Калі такая праграма будзе распрацавана, запэўніваю А. Малашку: мяне не трэба будзе «мабілізоўваць на барацьбу супраць дэмагогаў і крыкуноў». Знойдуцца ў мяне і тэарэтычныя аргументы, хопіць і аратарскага і палемічнага майстэрства, каб паказаць усю ілюзорнасць такіх альтэрнатыўных праграм. І зноў-такі не толькі таму, што платформа КПСС — гэта платформа **маёй** партыі, а таму, што як чалавек, які сёе-тое разумее ў законах грамадскага развіцця, я глыбока перакананы: іншага, альтэрнатыўнага, шляху ў нас проста няма. Вядома, праграма перабудовы, прапанаваная партыяй, можа, павінна і будзе карэкціравацца ў прыватнасцях (і ў гэтых межах я прыму любую канструктыўную крытыку, ад каго б яна ні зыходзіла — Дж. Буша, нефармальных аб'яднанняў ці нават самога Вельзевула), але яна не можа быць іншай па сваёй сутнасці. На тым стаю і стаяць буду. Ды, наколькі мне вядома, аргкамітэт БНФ ставіць сваёй мэтай стварыць гэтую грамадскую арганізацыю менавіта ў падтрымку перабудовы, г. зн. для таго, каб узяць пад грамадскі кантроль рэалізацыю палітычнай лініі партыі, не дазволіць бюракратыі спусціць яе на тармазах.

**Ці, можа, А. Малашка бачыць уклад «письменников» у справу перабудовы ў іншым? У тым, напрыклад, каб падахвоціцца адкормліваць бычкоў дзеля выканання Харчовай праграмы? Ці стаць на «рабочыя месцы» да такарнага альбо фрэзернага станка? Сёе-тое накшталт гэтага мне ўжо даводзілася чытаць у рэспубліканскім друку. Калі гэта пішуць рабочыя, іх можна зразумець. Мы ж дзесяцігоддзямі ўбівалі людзям у галовы, што адзіная праца, якая стварае нацыянальнае багацце краіны, гэта праца ля станка і на калгасным полі. Нават адпаведныя крытэрыі вынайшлі — прадукцыйная і непрадукцыйная праца, не абцяжарваючы сябе «працай» зразумець, што праца па прыродзе сваёй не можа быць непрадукцыйнай. Гэта марксізм у сталінскай аркестроўцы. Што ж, плён такой эканамічнай «тэорыі» і такой палітычнай практыкі мы і спажываем сёння ў выглядзе нашай тэхнічнай і тэхналагічнай адсталасці, дэфіцыту духоўнай культуры.**

Але, паўтараю, рабочага, калгасніка я магу, прынамсі, зразумець. Аднак я не магу і не хачу разумець тых, хто па сваім грамадскім становішчы, па сваіх грамадскіх функцыянальных абавязках павінен ведаць хоць бы азы эканамічнай навукі. Калі не ведаюць — іх месца там, куды яны прапануюць ісці рухаць перабудову «письменникам»: ля станка, на калгасным полі (само сабой, для гэтага таксама патрэбна кваліфікацыя). Калі ж ведаюць, то гэта дэмагогія самага нізкага гатунку, дэмагогія з далёкім прыцэлам. Ці, карыстаючыся звычнай для А. Малашкі тэрміналогіяй, я сказаў бы так: спробы блакіраваць перабудову зыходзяць сёння не толькі «злева», ад «крыкуноў», але і «справа», ад тых, хто дзейнічае ціхай сапай. Гэтыя апошнія ўяўляюць не меншую, а, можа, нават большую небяспеку для справы перабудовы, чым эмацыянальная стыхія нефармалаў.

Я за кансалідацыю, да якой заклікае А. Малашка. Ды, як гаварыў нядаўна М. С. Гарбачоў, не любой цаной. У мяне няма аніякага жадання кансалідавацца з рэліктамі тыпу Н. Андрэевай, М. Малахава, Ан. Іванова і ўсімі тымі, для каго перабудовачная фразеалогія ўсяго толькі камуфляж, маска, якая дае магчымасць прыхоўваць выскал сталініста.

---

**Ганарар за артыкул прашу пералічыць на рахунак № 702903 — на будаўніцтва помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій — у Курапатах.**

---

*Мартыралог Беларусі: факты і імёны*

# За што? За якія правіннасці?

Усё свядомае жыццё мяне не пакідала думка, што калі-небудзь я змагу выказаць набалелае, сказаць праўду пра тыя ганенні, цкаванне, паклёп, тую жахлівую несправядлівасць, якія праследавалі паўвека нашу сумленную сям'ю і ўсю нашу вёску Сілівонаўку. Сапраўды, што можа быць больш жахлівага і несправядлівага, чым тэрор супраць селяніна, супраць простага працоўнага чалавека.

У пацвярджэнне сказанага паведамляю спіс (праўда, няпоўны) жыхароў вёскі Сілівонаўка, якія падвергліся рэпрэсіям у 30—40 гадах. Вось яны, прозвішчы і імёны, якія я ўзнаўляю па памяці:

1. Архіпенка Марыя
2. Архіпенка Пётр Іванавіч
3. Архіпенка Якаў Іванавіч
4. Бандарэнка Пётр Андрэевіч
5. Бандарэнка Анастасія Міхайлаўна
6. Герасіменка Афанасій Васільевіч
7. Герасіменка Рыгор Еўдакімавіч
8. Герасіменка Еўдакім Васільевіч
9. Герасіменка Емяльян Васільевіч
10. Герасіменка Ілля Васільевіч
11. Ільін Аўдзей Міхайлавіч
12. Ільін Якаў Міхайлавіч
13. Кавалёў Павел Лявонавіч
14. Крэдзікаў Пётр Аўрамавіч
15. Кунцэвіч Антон Пятровіч
16. Кунцэвіч Іван Пятровіч
17. Кунцэвіч Фёдар Васільевіч
18. Маркаў Васіль Фаміч (а яго жонка Варвара ў выніку ганення, галечы, нанесеных маральных і матэрыяльных траўм і крыўдаў, ад усведамлення дзікунскай несправядлівасці пазбавілася розуму).
19. Маркаў Емяльян Фаміч
20. Маркаў Сцяпан Дзям'янавіч
21. Маркаў Марк Канстанцінавіч
22. Маркаў Карп Дзям'янавіч
23. Маркаў Фёдар Цярэнцьевіч
24. зяць Маркава Карпа — Пётр
25. Міронаў Давыд Дзянісавіч
26. Міронаў Іван Емяльянавіч
27. Нікалаева Дуся Радыёнаўна
28. Нікалаеў Якаў
29. Пугачоў Андрэй Сцяпанавіч
30. Пугачоў Кузьма Сцяпанавіч
31. Пугачоў Сцяпан Андрэевіч
32. Рымараў Асон Восіпавіч
33. Рымараў Гаўрыіл Асонавіч
34. Рымараў Павел Асонавіч
35. Рымараў Афанасій Восіпавіч
36. Рымараў Улас Архіпавіч
37. Рымараў Сцяпан Архіпавіч
38. Рубанаў Гардзей Антонавіч
39. Рубанаў Захар Антонавіч
40. Рудзянкоў Павел
41. Сідарэнка Мікіта Аўрамавіч
42. Свірыдэнка Ягор
43. Шылянкоў Захар Аляксеевіч
45. Якушаў Іван Максімавіч.

Я не прыпомню зараз, хто ў якім годзе быў рэпрэсіраваны (апрача бліжэйшых сваякоў), але тое, што ніхто з жыхароў вёскі не ведае, за якія правіннасці ссылалі ці расстрэльвалі, тое, што ніякіх антысавецкіх злачынстваў у вёсцы за ўсе 70 гадоў не было зроблена, — гэта я знаю добра. Вось і не дае спакою пытанне: за што?

Дарэчы, указаныя ў спісе аднафамільцы і сваякі — гэта не ахвяры сямейных высылак «кулакоў»; на кожнага з іх ствралася «справа», кожны пацярпеў асобна і ў розны час.

А як, думаю, спатрэбіліся б сёння гэтыя людзі, іх дзеці і ўнукі нашай беднай вёсцы, дзе дажываюць свой век адны пенсіянеры.

**М. РЫМАРАЎ.**
г. Бабруйск.

# «Гэта памылка, разбяруцца...»

Гэта былі апошнія словы бацькі, якія ён сказаў на парозе, калі яго выводзілі ноччу 22 жніўня 1938 года.

Разабраліся, але як і калі! У маіх руках даведка № 1313 ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі ад 19 жніўня 1959 года. У даведцы сказана: «Справа па абвінавачанню Ліпскага Адольфа Іванавіча, 1900 года нараджэння, да арышту — 22 жніўня 1938 года — дырэктар Магілёўскай канторы «Белдзяржтранса», перагледжана Ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі 17 жніўня 1959 года. Пастанова ад 11 лістапада 1938 года ў адносінах Ліпскага Адольфа Іванавіча адменена і справа за адсутнасцю састава злачынства спынена. Ліпскі А. І. рэабілітаваны пасмяротна. Намеснік старшыні Ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі палкоўнік юстыцыі А. Каробскі».

Даведка аб рэабілітацыі ёсць. І за тое, як кажуць, дзякуй. Але мне хацелся б, каб недзе яшчэ значылася, каб недзе яшчэ было сказана, што бацька мой, просты, сціплы чалавек, не быў ніякім ворагам народа, што ён стаў нявіннай ахвярай розных нелюдзяў. Таму і звяртаюся ў рэдакцыю.

Нарадзіўся бацька ў беднай сялянскай сям'і, батрачыў з 10 год. Затым працаваў вучнем у механічных майстэрнях у г. Оршы. Удзельнік грамадзянскай вайны. Пасля вайны вучыўся, стварыў першыя МТС у Магілёўскай вобласці. Член партыі з 1924 года. Апошняя пасада ўказана ў прыведзенай даведцы. Вось і ўся біяграфія.

У 1956 годзе на маё запытанне ў адрас Магілёўскага аддзела НКУС мне быў уручаны адказ на вузкай папяровай стужцы, без штампа і без подпісу, дзе было сказана, што А. І. Ліпскі памёр у 1944 годзе ад запалення лёгкіх у месцы зняволення. Праз некалькі год мяне адшукаў былы саслужывец бацькі і паведаміў, што знае дакладна: бацьку расстралялі восенню 1938 года. Гэта супадала і з маім меркаваннем, бо, са слоў маці, прыём перадач быў спынены ў лістападзе 1938 года. Дзе бацька пахаваны — у Курапатах ці ў іншым месцы — не ведаем. Знік, быццам яго і не было.

Я хацела паслаць усе звесткі пра бацьку ў маскоўскае таварыства «Мемарыял». Але потым перадумала. Нарадзіўся, жыў, працаваў і загінуў ён у Беларусі, любіў сваю Радзіму. Хай Радзіма перш за ўсіх і ведае пра лёс сваіх сыноў.

**Р. ЛІПСКАЯ.**
г. Мінск.

І тры самапалы...
А на зброі... казацкая
Кроў пазасыхала.
Вядуць каня, ў варанога
Капыты разбіты...
А на вараным сядзельца
Хусцінай акрыта.

Орская крэпасць
1847—Ніжні Ноўгарад,
1858. Сакавіка 8.

## Ісаія. Раздзел 35

**(Пераймание)**

Май радасць, ніва непалітая!
Зямля, май радасць не павітая
Травой квяцістай! Узрасці,
Ружовым крынам працвіці!
І працвіцеш, пазелянееш,
Як Іярданавы святыя
Лугі густыя берагі!
І чэсць Кармілава і шана
Ліванава, а без спадмана,
Цябе акрые дарагім
Залатканым, хітрашытым,
Дабром ды воляю падбітым,
Святым амофарам сваім.
І людзі, цёмныя, сляпыя,
Дзівосы бога ўбачаць тыя.
І спачнуць у нявольнікаў
Стомленыя рукі,
І калені адпачнуць,
Што ў кайданы ўкуты!
Радуйцеся, ўбогадухі,
Не бойцеся дзіва, —
Гэта судзіць, вызваляе
Бог доўгацярплівых
Вас убогіх. А злодзеяў
Ён за зло карае!
Тады, як на зямлю святая,
О божа, праўда прыляціць
Хоць на гадзінку адпачыць...
Сляпыя ўбачаць, а крывыя,
Як сарна з гаю, стрымгануць.
Нямых пакіне немата,
Прарвецца слова, як вада,
Путэльня з доляю калючай,
Вадою ўмыўшыся гаючай,
Прачнецца ўся; і пацякуць
Вясёла рэкі, а азёры
Наўкол гаямі прарастуць,
Вясёлым птаствам ажывуць.
Ажывуць стэпы, азёры,
І не верставыя,
А вольныя, шырокія
Скрозь шляхі святыя
Прасцеляцца: і не знойдуць
Тых шляхоў улады,
А рабы шляхамі тымі
Без крыку і гвалту,
Пасыйдуцца ў гурт адзіны
Радасна, вясёла.
І пустэльню апануюць
Вясёлыя сёлы.

25 сакавіка 1859
С.-Пецярбург

## Л.

Пастаўлю хату ў ахарошы,
Садок-раёчак насаджу.
Папасяджу і пахаджу
Ў сваёй маленькае раскошы.
Яшчэ ў самоце-адзіне
У садочку буду спачываць я,
І дзетачкі прысняцца мне,
Вясёлая прысніцца маці,
Як даўна-колішняй вясной
Прысніцца ясны сон!.. і ты!..
Ды не, не буду спачываць я,
Бо й ты прыснішся мне. І ў той
У мой малы раёчак ціха
Пакрадзешся, наробіш ліха...
Запаліш рай самотны мой.

27 верасня 1860
С.-Пецярбург

●

Цячэ вада з-пад явара
Ярам на даліну.
Красуецца над вадою
Чырванню каліна.
Красуецца каліпанька,
Явар маладзее,
А наўкол іх вербалозы,
Лозы зеленеюць.

. . . . . . . . . . . . . .

Цячэ вада ды з-пад гаю,
Цячэ пад гарою,
Хлюпаюцца качаняткі
Паміж асакою.
А качачка выплывае.
З качарам за імі,
Ловіць раску, размаўляе
З дзеткамі сваімі.

. . . . . . . . . . . . . .

Цячэ вада ўскрай гароду.
Вада ставом стала.
Браць ваду прыйшла дзяўчына,
Брала, заспявала.
З хаты пагуляць у садзе
Выйшлі бацька, маці,
Параіцца, ды каго б ім
Назваць сваім зяцем?

7 лістапада 1860
С.-Пецярбург

Пераклаў
Рыгор БАРАДУЛІН.
Мал. В. СТАШЧАНЮКА.

---

паэт. Яго вершы вызначаюцца музычнасцю, якая складае вызначальную асаблівасць кожнага вялікага паэта. Таму нават малазнаёмыя з украінскім вершам з задавальненнем слухаюць творы Шаўчэнкі і нават запамінаюць іх на памяць».

У артыкуле невядомага аўтара «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі», таксама пасланым у «Витебские губернские ведомости» ў тым жа 1911 г., адзначаецца, што ў «Кабзары» Шаўчэнкі адлюстраваўся сялянскі побыт «са своеасаблівымі адценнямі прыгажосці, задуменнасці і суму... Душа Шаўчэнкі да такой ступені прасякнута народнасцю, што кожны, нават староннi матыў атрымлівае ў яго паэзіі украінскую нацыянальную афарбоўку».

І ў той жа час, на думку карэспандэнта, Шаўчэнка выказвае думкі і пачуцці, блізкія іншым народам. Ён мае вялікае значэнне ў гісторыі развіцця не толькі ўкраінскай літаратуры, «на чале якой ён застаецца і да гэтага часу, але таксама аказаў прыкметны ўплыў і на развіццё літаратуры і ў іншых славянскіх краінах... Творы яго перакладзены амаль на ўсе славянскія мовы».

Страсная любоў Шаўчэнкі да роднай Украіны спалучаецца з любоўю да ўсіх прыгнечаных народаў у царскай Расіі «од молдаваніна до фіна». Шаўчэнка горача спачувае і славянскім народам, якія знаходзіліся пад ярмом нямецкіх феадалаў. Таму не дзіўна, што ў 1914 г., калі споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння паэта, урад Аўстра-Венгрыі забараніў зборнік: Шаўчэнка (Тарас). Кобзарь, Львів, 1895.

І ў царскай Расіі шаўчэнкаўскі «Кабзар» быў крамольнай кнігай, а царскія ўлады прыкладалі ўсе намаганні, каб у 1914 г. перашкодзіць ва ўсіх гарадах Расіі правядзенню ўрачыстасцей у памяць Шаўчэнкі.

21 лютага 1914 г. таварыш міністра ўнутраных спраў Джункоўскі ў тэлеграме, пасланай выконваючаму абавязкі мінскага губернатара Чанікаеву, пісаў, «что к разрешению чествования памяти Шевченко вообще препятствий не встречается, но при условии допущения их в закрытых помещениях. Никакие демонстрации, уличные выступления и сборища допущены быть не могут». І ў той жа час даецца сакрэтнае распараджэнне, каб усялякія ўшанаванні памяці Шаўчэнкі не былі дапушчаны ўвогуле. І таму мінскі і бабруйскі паліцмайстары, усе спраўнікі Мінскай губерні (мінскі, бабруйскі, барысаўскі, слуцкі, ігуменскі, мазырскі, рэчыцкі, пінскі, навагрудскі) стараліся ўсё зрабіць дзеля таго, каб «никаких чествований памяти Шевченко не было» (там жа).

Такія беззаконні адбываліся і ў іншых губернях царскай Расіі. Але ніякія забароны не змаглі вытруціць у народных масах памяць пра вялікага паэта, якому, па словах М. Багдановіча, «была суджана велічная роля зрабіцца сімвалам культурнай каштоўнасці цэлага народа, увасабленнем яго духоўнай існасці».

**І. СЦЯПУНІН,**
**кандыдат філалагічных навук.**

---

# РЫЦАР МУЗЫКІ

**Памяці Яраслава Вашчака**

Сэрца народнага артыста СССР Яраслава Вашчака, абняможанае пяццю інфарктамі, не вытрымала... Пайшоў ад нас мастак, бадай, самага рэдкага даравання — оперны дырыжор. Са свету паліфаніі ў незваротны свет нематы сышоў майстар найвышэйшага класа, агромністага таленту, з думкай якога лічыліся самыя выдатныя нашы сучасныя кампазітары, спевакі, музыканты. Можа, толькі з часам мы ўсвядомім поўнасцю, каго мы страцілі, недалюбілі, каго падчас недаацэньвалі, не дагружалі творчай працай (хаця ён хацеў і мог зрабіць больш). Калі маэстра Вашчак станавіўся за пульт і браў у рукі дырыжорскую палачку, на сцэне і ў зале ўсё роўна як перад навальніцаю, напінапалася цішыня, атмасфера праціналася напружаным токам музычнасці, каб неўзабаве абрынуцца на слухачоў ліўнем гукаў. Кожны оперны ці балетны спектакль, якім дырыжыраваў Вашчак, станавіўся падзеяй у музычным жыцці Мінска і рэспублікі.

Можна смела гаварыць пра «вашчакоўскі этап» у гісторыі беларускага опернага тэатра, якому дырыжор аддаў семнаццаць сваіх самых сталых, вопытных гадоў. У Мінску ён ажыццявіў найгалоўныя свае творчыя задумы — паставіў «Барыса Гадунова» М. Мусаргскага, «Гальку» С. Манюшкі, «Дона Карласа» Дж. Вердзі, «Севільскага цырульніка» Дж. Расіні, «Карміну Бурану» К. Орфа, «Спартак» А. Хачатурана, «Міндыю» А. Тактакішвілі, «У буру» Ц. Хрэннікава і інш. У кожнай пастаноўцы яскрава выяўляліся ягоны густ, стыль, творчая манера. Не проста іграць, спяваць, а жыць на сцэне — гэта было яго галоўнейшае патрабаванне да ўсіх музыкантаў і акцёраў. Выразна размяжоўваючы драматургію музычную і сцэнічную, ён дабіваўся не толькі, нават не столькі выдатнага гучання голасу спевака ці інструмента, а высокай духоўнасці, эмацыянальнасці гуку, перад кожным удзельнікам спектакля ставіў як канкрэтную задачу, так і звышзадачу. Бескампрамісны і непадкупны да музычнай творчасці, ён да кампазітараў, спевакоў, музыкантаў прыняў найвышэйшыя, як мы сёння кажам, міжнародныя стандарты. Якраз таму Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР у час, калі галоўным дырыжорам яго з'яўляўся Яраслаў Вашчак (1972—1980), перажыў пару свайго ўзлёту, стаў адным з вядучых оперных калектываў усёй нашай нябеднай на таленты краіны. Адна прысутнасць Вашчака ў тэатры, ягоны аўтарытэт не дазвалялі нікому — ад вядомага акцёра да работніка сцэны — расслабляцца, працаваць напаўсілы, даваць сабе палёгку.

Няпросты жыццёвы і творчы лёс быў у Яраслава Антонавіча. Няпросты, складаны быў і сам ён, рыцар музыкі, чалавек шырокай, я б сказаў, караткевічаўскай натуры, рамантык-максіміліст. Але ва ўсіх сітуацыях ён імкнуўся дзейнічаць шляхетна, інтэлігентна (любімае яго слова). Не прызнаваў ніякіх кампрамісаў, калі пры гэтым трэба было паступацца мастацкімі прынцыпамі, самім Мастацтвам. Таму антыподаў, праціўнікаў, незычліўцаў у яго заўсёды было даволі. Аднак з часам некаторыя незычліўцы і нават ворагі прызнавалі яго слушнасць. І ён ім у такім разе заўсёды дараваў, не памятаў зла, тым больш ніколі не помсціў. Асобныя з іх станавіліся ягонымі прыяцелямі і нават сябрамі.

Мне пашчасціла ўсе семнаццаць мінскіх гадоў Вашчака быць побач з ім, часта бачыцца ў сталіцы Беларусі і на маёй роднай Валожыншчыне, якую ён так любіў, слухаць яго глыбокія і заўсёды цікавыя выказванні пра розныя падзеі культурнага, найперш музычнага, жыцця, гутарыць з ім пра тэатральныя, літаратурныя навіны. Шчыры ўкраінскі патрыёт (Вашчак нарадзіўся на Львоўшчыне, працяглы час працаваў у Львоўскай оперы), Вашчак з глыбокай сімпатыяй ставіўся да беларускай гісторыі, культуры, мовы, радаваўся духоўнай блізкасці нашых народаў. Сапраўдны інтэрнацыяналіст, ён цешыўся кожнаму творчаму поспеху сучасных беларускіх кампазітараў, артыстаў, пісьменнікаў, мастакоў. І мы адзін аднаго добра разумелі, хоць гаварылі звычайна кожны на сваёй мове: ён — па-ўкраінску, я — па-беларуску. Хочацца верыць, што і гэтыя нашы гутаркі схілілі яго, напачатку далекаватага ад патрэб уласнага беларускага опернага мастацтва, прыняць самы чынны ўдзел у стварэнні цалкам нацыянальных спектакляў. Колькі часу, творчай энергіі, ведаў аддаў ён сваім малодшым калегам — кампазітару С. Картэсу і лібрэтысту У. Халіпу ў перыяд іх такой напружанай працы над операй Джардана Бруна»! А з якім настаўніцкім цярпеннем і ўважлівасцю ён паставіўся да маладога беларускага кампазітара А. Кандрусевіча, як зацікаўлена дапамагаў яму дасканаліць музыку балета «Крылы памяці»! Апошнія два гады Яраслаў Вашчак нястомна працаваў з кампазітарам У. Солтанам і лібрэтыстам С. Клімковіч, рыхтуючы разам з імі да пастаноўкі оперу «Дзікае паляванне караля Стаха» (па аднайменнай аповесці У. Караткевіча). Гэта опера стала ягонай лебядзінай песняй. Ёю ён штодзённа жыў, пра яе ўвесь час думаў і гаварыў нават за дзве гадзіны да смерці. Не хапіла яму крыху менш месяца, каб парадаваць нас і парадавацца самому апошняй сваёй прэм'ерай...

Пайшоў ад нас Яраслаў Вашчак, чалавек, народжаны для музыкі. Пайшоў па-рыцарску мужна, не паддаўшыся хваробе, не саступіўшы ёй ніводнага творчага дня. Пайшоў, пакінуўшы па сабе светлы след у сэрцы кожнага, хто яго ведаў.

**Вячаслаў РАГОЙША.**

---

# Аляксандра БЕРГМАН: спроба партрэта

Яе сціплую, але ўтульную, перапоўненую беларускімі кніжкамі кватэру ў самым цэнтры Варшавы, на алеях Іерусалімскіх, ведае шмат хто з мінчукоў, што бывалі па розных справах у польскай сталіцы. Дзверы яе хаты заўсёды адчынены для ўсіх, хто шчыра цікавіцца беларусамі і беларускай гісторыяй. І гэта невыпадкова. Аляксандра Бергман — адзіны, бадай што, беларускі гісторык у Польскай Народнай Рэспубліцы. Назваць даследчыцу беларускім гісторыкам мы павінны не ў сувязі з яе нацыянальнай прыналежнасцю і не ў сувязі з мовай яе твораў (большая іх частка напісана па-польску), а ў сувязі з яе навуковай і грамадскай пазіцыяй.

Амаль 30 год свайго жыцця прысвяціла А. Бергман вывучэнню гісторыі беларускага грамадска-палітычнага руху ў Заходняй Беларусі. Яна аўтар дзвюх вялікіх манаграфій: «Слова аб Браніславе Тарашкевічу», «Беларускія справы ў Другой Рэчы Паспалітай», шматлікіх навуковых і публіцыстычных артыкулаў. Асаблівую вартасць мае серыя артыкулаў-біяграфій вядомых дзеячаў заходнебеларускага руху: С. Рак-Міхайлоўскага, У. Самойлы, І. Дварчаніна, Л. Родзевіча і іншых. Гэта яна была першым гісторыкам ПНР, хто грунтоўна распрацаваў гісторыю славутай «Грамады».

Працы А. Бергман адрозніваюцца не толькі навуковай грунтоўнасцю і багатай гістарыяграфічнай базай, але і эмацыянальнасцю. Прычым адыход ад акадэмічнай, стрыманай манеры ні ў якім разе не зніжае вартасці яе прац. Наадварот, элементы мемуарыстыкі, якія так шчодра перамешваюцца ў працах даследчыцы з аб'ектыўнай фактalогіяй, надаюць ім характар большай пераканаўчасці. Справа ў тым, што А. Бергман з'яўляецца адным з ветэранаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Не раз даводзілася ёй рызыкаваць жыццём, зведала яна і смак турэмнага і лагернага хлеба, як у польскіх, так і ў сталінскіх засценках. Таму Аляксандрай Бергман у яе навуковых даследаваннях рухае не толькі навуковы інтарэс. Адраджаючы праўду аб КПЗБ, яна нібы сплачвае той неадплатны доўг перад усімі, хто не дажыў да рэабілітацыі сваёй партыі, хто загінуў у ходзе рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі альбо стаў нявіннай ахвярай сталінскага тэрору.

Шлях А. Бергман у навуку быў не просты. Па сутнасці, яна пачала прафесійна займацца гісторыяй толькі пасля таго, як ёй споўнілася 50 гадоў. І на здзіўленне многім дасягнула на гэтым шляху значных поспехаў.

Нядаўна Аляксандры Бергман споўнілася 80 гадоў. Але яна паранейшаму перапоўнена творчымі планамі. Даследчыца мае намер пашырыць сваю галерэю партрэтаў дзеячаў заходнебеларускага нацыянальнага руху, высветліць малавядомыя старонкі ўзаемадачыненняў заходнебеларускіх камуністаў і дзеячаў іншых палітычных напрамкаў. Штодня на яе адрас прыходзяць шматлікія лісты. Пішуць былыя КПЗБоўцы, калегі-гісторыкі, усе тыя, хто па-аматарску цікавіцца гісторыяй роднага краю.

На жаль, беларускі чытач не мае магчымасці ацаніць праўдзівасць гэтых сцвярджэнняў. Да сённяшняга дня ніводная з прац Аляксандры Бергман не выдадзена ў БССР. Ніхто не зрабіў спробы выдаць у Мінску нават такую фундаментальную яе працу, як «Слова аб Браніславе Тарашкевічу». У застойны перыяд падобная пазіцыя вядомых бюракратычных колаў тлумачылася тым, што працы А. Бергман былі напісаны без замоўчвання трагічных старонак гісторыі КПЗБ, без перакручвання гістарычнай праўды. Сёння ж, як мне здаецца, менавіта тыя самыя колы не зацікаўлены ў тым, каб у выніку знаёмства з працамі А. Бергман грамадства яшчэ раз пераканалася, да чаго давялі беларускую гістарычную навуку кан'юнктурнасць і бюракратычны дыктат застойнага перыяду.

**М. ІВАНОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

